# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 31 (1786) ГОД XXXV БЕЛАСТОК, 5 ЖНІЎНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.




## Наш агульны смутак

Кажуць, што пятніца 13 чысла з'яўляецца нешчаслівым днём. І вось 13 ліпеня, якраз у пятніцу дайшла да нас жахлівая вестка аб пажары царквы на Грабарцы, святым месцы вернікаў Праваслаўнай царквы. Сюды, на святую Гару прыходзяць тысячы паломнікаў. Асабліва многа людзей збіраецца на Грабарцы 19 жніўня, калі адзначаецца свята Праабражэння Гасподняга.

Гісторыя Грабаркі як цэнтра праваслаўнага паломніцтва налічвае некалькі стагоддзяў, а значэнне гэтай мясцовасці ўзрасло ў пачатку XVIII стагоддзя, пасля таго, калі ў 1710 г. у Сямяцічах успыхнула эпідэмія. У гэты час адзін стары ў сне пачуў голас, які падказаў яму, каб людзі зрабілі крыж і занеслі яго на гару Грабарку. Кожны, хто занёс крыж і памаліўся, быў вылечаны. Эпідэмія спынілася. Удзячныя жыхары Сямяціч пабудавалі тут капліцу. У канцы XIX ст. капліца была грунтоўна перабудавана і ў такім стане датрывала да нашых часоў.

Субота, 14 ліпеня. На Грабарку ідуць і едуць людзі, каб на ўласныя вочы пабачыць месца трагічнага пажару. Ад храма Праабражэння Гасподняга засталіся фрагменты асмаленых сцен, бэлькі, слупы. На папялішчы віднеюць скручаныя ад агню падсвечнікі, абпаленыя сурвэткі, аблачэнні, царкоўныя кнігі. Ад звана асталося толькі жалезнае сэрца. Да папялішча ўвесь час прыходзяць людзі, сумныя, са слязамі ў вачах. Жанчына ў чорнай хустцы хрысціцца і плача. Двое дзетак кладуць на асмаленыя сходы палявыя кветкі. Людзі размаўляюць між сабою шэптам, шукаюць адказу на пытанні: хто гэта зрабіў? як гэта сталася?

Архімандрыт Нікан, настаяцель мясцовага прыхода, у чацвер (12 ліпеня) вечарам доўга чытаў, рыхтаваўся да заўтрашняй абедні. Потым заснуў. Каля поўначы разбудзіла яго манашка. Царква стаяла ў полымях, гарэў дах. Спачатку падумаў, каб увайсці ў сярэдзіну і вынесці з прастола Евангелле. Але ўжо было запозна. Нічога выратаваць не ўдалося. Пры пажары былі людзі з навакольных вёсак. Гэта яны заўважылі пажар і паднялі трывогу. Адразу стала вядома, што нехта падпаліў царкву. Удзень абакралі Плешукоў з Шумілаўкі. На іх панадворку стаіць бочка з нафтай, зладзеі адкрылі яе. Можа бралі нафту?

Анна Плешук расказвае, як абакралі іх дом. Здарылася гэта між 15 і 16 гадзінай, калі сваточным адвячоркам пайшла да суседкі. Злодзей забраў кажух, свіцеры, куртку, гадзіннікі. Быў у свіронку і аборы, адкрыў бочку з нафтай. Ці ўзяў нафту, цяжка адназначна сказаць. У злачынстве падазраваe Яна С., жыхара суседняй вёскі Конскія Горы, якога адпусцілі з турмы на некалькі дзён. Раніцай бадай ён жа і ўкраў у Казіміра Васілеўскага з Конскіх Гор каня, на якім прыехаў на хутар Паўлавічы. Там каня знайшоў Міхал Плешук. Вечарам злодзей украў у Плешукоў дзіцячы ровар і паехаў ім на станцыю Сычы.

Ян Панасюк з жонкай у гэты дзень былі ў Сямяцічах, дзе адзначалася свята Пятра і Паўла. Вярнуліся дадому цягніком, які прыязджае на станцыю Сычы пару мінут перад 23-яй. Ад станцыі да Шумілаўкі трэба ісці 20 мінут. Па дарозе сустрэлі чалавека, які на дзіцячым ровары ехаў у напрамку станцыі. Дома разбудзілі сына і ўвайшлі ў хату. Той расказаў аб крадзежы ў Плешукоў. Калі праз хвіліну выйшаў на панадворак, убачыў зарыва над святой Гарой.

Ян і Ніна Панасюкі разам з Аннай Плешук пабеглі да манастыра, разбудзілі манашак. А гадзіне 23.45 дзяжурны пажарнай каманды прыняў інфармацыю аб пажары. Першыя пажарнікі прыехалі зараз пасля поўначы. Прыехала 12 пажар-

(Працяг на стар. 6)



**ДАРАГІЯ СЯБРОЎКІ І СЯБРЫ З „НІВЫ“!**

Я паражоны страшэннай падзеяй: злачынная рука аддала агню праваслаўны санктуарый у Святой Грабарцы. Маё мусульманскае сэрца плача таксама, як плакала, калі ў іншых месцах і ў іншым часе знішчаліся каштоўнасці іслама.

Шлю самыя сардэчныя словы спачування перш за ўсё святарам і жыхарам Грабаркі, шлю іх усім, хто сёння балюча адчувае гэтую трагедыю.

Грабарка яшчэ больш узвысілася да Ўсявышняга!

Грабарка адгэтуль стаецца і маім святым месцам. Недзе каля Навагрудка, перад вайною, ля магілы святога, мусульманіна Кантуся, маліліся побач з татарамі праваслаўныя, яўрэі, каталікі, евангелікі. Веру, што Грабарка дачакаецца гэтага самага, калі не пры жыцці нашых пакаленняў, дык тады, калі нас ужо сярод жывых не будзе, а ў вечнасці.

Малюся першай сурай Карана, Аль-Фаціха (т.зв. „Адчыняючай“), маючы ў сэрцы Святую Грабарку.

**Мацей Канапацкі, Сопат**
(колішні супрацоўнік „Нівы“)

## Ставім у прыклад

**Стараннем дзеяча БГКТ у Варшаве Янкі Жамойціна 17-асабовая група беларускіх дзяцей з зоны, забруджанай вынікамі чарнобыльскай аварыі, прыехала 1 жніўня г.г. на 3-тыднёвыя канікулы ў горы Татры.**

**Пераканаў ён сяброў з кіраўніцтва прадпрыемства „Кор'юм“ у Варшаве, каб пагасіць частку коштаў утрымання дзяцей і апекі над імі. Незалежна ад таго пачатая Янкам Жамойціным акцыя добраахвотных ахвяраванняў на адпачынак дзяцей Чарнобыля сустрэлася з прыхільнасцю сярод супрацоўнікаў прадпрыемства.**




— 1 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Стан беларускай нацыянальнай свядомасці ўсім вядомы. Дайшлі мы да такой ступені самапагарды, што, мабыць, ва ўсім свеце знойдзецца нямнога народаў, якія б маглі з намі зраўняцца. Так, беларусы гэта народ, які выразна не хоча быць народам. Даводзілася мне тысячы разоў сустракацца з беларусамі, якія ўсякую размову аб нашым рэнегацтве трактуюць як рэч клапатлівую, сарамлівую, нікому непатрэбную і нават шкодную. Такія людзі адабральна, талерантна, а нават з пахвалой адносяцца да тых, хто поўнасцю або часткова спаланізаваўся або абрусеў.

На жаль, няма ў іх зразумення для тых, хто, нягледзячы на ўсё, застаўся верным сынам Беларусі. Няма для іх ані талерантнасці, ані падтрымкі. Як жа многа разоў у жыцці сустракаўся я з людзьмі, якія мне гаварылі, што я без патрэбы займаюся беларускімі справамі. Здаралася і так, што глядзелі на мяне як на дзівака або прыдурка. Бывала, што падазравалі мяне ў тым, што я з беларускай дзейнасці маю нейкія карысці і прывілеі. Варта падкрэсліць і тое, што гавару я не аб так званых простых людзях, а аб людзях высокаадукаваных, з навуковымі званнямі, а асабліва аб тых, што займаюць высокія пасты ў дзяржаўнай, вайсковай або навуковай іерархіі.

Нядаўна ладзілі мы Купалле ў Белавежы. Свята было вельмі ўдалым. Прыйшло многа людзей, прыехалі дасканалыя калектывы — нашы і з Беларусі. Прысутныя скінулі больш як 600.000 злотых на пабудову Беларускага музея. Як заўсёды, выступаў я з прамовай і, як заўсёды, гаварыў аб нашых нацыянальных болях, патрэбах і пастулатах. Гаварыў памяркоўна. Нікога не заклікаў да нянавісці, наадварот, гаварыў аб пашане і братэрстве ў адносінах да палякаў. Прамова мая, судзячы па апладысментах, спадабалася сабраным. Аднак не ўсім. Ды і не магла яна спадабацца той катэгорыі беларусаў або псеўдабеларусаў, аб якіх я ўжо гаварыў вышэй. Адзін з іх, супрацоўнік таможных служб, сказаў майму добраму знаёмаму наступнае: „Przemówienie Barszczewskiego miało nacjonalistyczny charakter“.

Так, так, ведаем такіх беларусаў. Баяцца яны як заразы, як агню кожнай формы атаясамлівання з родным і беларускім. Гэты панок залічыў мяне да нацыяналістаў. Які ж гэта добры матэрыял для ворагаў беларушчыны, якіх так многа на свеце! Вось такія „беларусы“ ў канкрэтных абставінах могуць стацца душыцелямі ўсяго роднага і патрыятычнага. Яны могуць пайсці на службу любога чужынца. Ды ішлі ўжо не раз у нашай балючай і драматычнай гісторыі. А што я сказаў у Белавежы? Можа сапраўды сказанае мною кваліфікуецца да нацыяналістычнага злачынства? А сказаў я наступнае: „Мы выйгралі выбары ў Белавежы не для таго, каб быць на гэтай зямлі панамі, а для таго, каб быць на ёй гаспадарамі. Мы не хочам тут панаваць, а гаспадарыць. Гаспадарыць так, каб кожны жыхар на гэтай зямлі адчуваў сябе раўнапраўным і свабодным. Нававыбраны адміністрацыйны орган у Белавежы павінен трактаваць мясцовую польскую нацыянальную меншасць па-братэрску. На гэтай зямлі не можа быць паваленым ніводзін польскі крыж, не можа быць апаганена ніводная польская магіла і не можа згарэць ніводзін польскі касцёл. Але таксама не можа быць паваленым ніводзін беларускі крыж, не можа быць апаганена ніводная беларуская магіла і не можа згарэць ніводная беларуская царква.

Мы, беларусы, павінны вучыцца ад палякаў гарачай прывязанасці да роднай мовы, роднай культуры і роднай нацыі. Калі хочам, каб нас у свеце шанавалі, мусім шанаваць самі сябе і не можам чужое кахаць, а сваё ненавідзець“.

Вось і ўсё. Былі гэта элементарныя ісціны, запаветныя ідэі, якімі павінен кіравацца кожны народ, кожная нацыянальнасць і кожная этнічная група на шырокім свеце. На жаль, для таможнага чыноўніка была гэта нацыяналістычная ерась.

**Алесь Барскі**

P.S. Праз некалькі дзён пасля нашых святкаванняў у Белавежы зноў згарэла царква, на гэты раз у Грабарцы.

# ЗАЯВА

**Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне выказвае сваю трывогу пажарамі цэркваў, якія пачаліся ў васьмідзесятых гадох. Зьвяртае ўвагу тое, што зьніштажаюцца асабліва каштоўныя гістарычна й слаўныя сьвятыні. Нядаўняя трагедыя на Сьвятой Гары Грабарцы зьявілася апагеем злачынстваў супроць Праваслаўя й Беларускага Народу Польскай Рэчыпаспалітай.**

**Зьніштажэньне такой колькасці цэркваў за параўнаўча кароткі час паказвае на сьвядомую дзейнасьць, накіраваную супроць культуры й духа беларусаў Беластоцкага Краю. Гэта таксама забівае клін у беларуска-польскае сужыцьцё ў дзяржаве.**

**Беларускае Дэмакратычнае Аб'яднаньне катэгарычна патрабуе самага энэргічнага сьледчага разбору ня толькі ў справе пагібелі Грабарскай Сьвятыні, але й аднаўленьня сьледства ва ўсіх іншых выпадках, якія яшчэ не падпадаюць пад пракурорскі закон аб даўнасьці. Ня верым дагэтуляшнім тлумачэньням прычынаў няшчасьцяў.**

**Ад імя Галоўнае Рады й Краёвае Управы Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня**

**Алег Латышонак**
**Ян Максімюк**
**Віктар Стахвюк**
**Сакрат Яновіч**

**Беласток, ліпень 1990 г.**




### КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ І ПІСЬМЕННІКІ

**Апошнія дні займаўся чытаннем усіх нумароў „Нівы“ да № 24, якія вы мне даслалі за болей чым тры месяцы. Зноў ужыўся ў прывычную стыхію і першае, што хачу выказаць, гэта заўвагу А. Барскаму, які ў сваіх артыкулах („Калектывізацыя і пісьменнікі“ ды іншых) усё неяк імкнецца зняважыць Купалу. Вось пару прыкладаў: „славуты сервілістычны верш Янкі Купалы“, „народныя паэты верна стаялі пры троне ворага народаў — Сталіна“.**

**Не ўпершыню чуць такое ад павярхоўных даследчыкаў, якія робяць высновы паводле чутак, не аналізуючы.**

**Спадар Барскі, вы на ўласныя вочы бачылі рукапісныя аўтографы тых „купалаўскіх твораў“? Вы робіце высновы на падставе савецкага друкаванага слова, а яно ж і было самай бруднай плёткай. Я сам памятаю, як яшчэ нядаўна „Политический собеседник“ замовіў мне „аб'ектыўны артыкул“ пра рок-музыку, я паспяшаўся выкарыстаць трыбуну для абароны затурканага напрамку музыкі, артыкул выйшаў, але... Подпіс мой, загаловак мой, галоўныя дзеючыя асобы — мае. А сутнасць — поўны разнос рок-музыкі.**

**Дый ці ўпершыню такое?**

**Каб вы былі беларусам у душы, вам не быў бы незнаёмы трагічны лёс Купалы. Ці можа думаеце, што харакіры ён сабе зрабіў ад захаплення японскім спортам?**

**А менавіта ж убачыў свой подпіс, надрукаваны пад тым, чаго ён не падпісваў. Цаною свайго жыцця ён хацеў даць сігнал нашчадкам, што Купала — не той, што ў савецкім друкаваным слове. Сігнал быў моцны (хоць тады несняра і ўратавалі), але нашчадкаў не аказалася. Бо што ўзяць з даверлівых чытачоў, калі той, хто прэтэндуе на ролю пэўнай клетачкі мозгу нацыі, хто мае трыбуну, скарыстоўвае гэтую трыбуну дзеля знявагі сумленнага чалавека на падставе несумленных плётак. І чытачы „Нівы“ ўжо тры месяцы маўчаць. Гэта габон, як кажа „Мроя“.**

**Я не заклікаю ствараць бажка з Купалы. Я б не пакрыўдзіўся, напрыклад, на мастака, які намаляваў бы Купалу на ўнітазе, на пісьменніка, які распісаў бы яго п'янага. Усе мы ведаем, з чаго і ў якіх умовах складаецца нашае жыццё. Але я заклікаю А. Барскага думаць над кожным сваім словам, а калі гэта ёсць, дык не хлусіць самому сабе.**

**Вітаўт Мартыненка**

# СУСВЕТНЫ КАНГРЭС

IV Сусветны кангрэс па вывучэнню Савецкага Саюза і Усходняй Еўропы праводзіўся 21—26 ліпеня г.г. у горадзе Харагэйт у Вялікабрытаніі. Прымала ў ім удзел 1200 вучоных. Упершыню прыехала 150 прадстаўнікоў СССР (але без навукоўцаў з БССР, хаця збіраўся ехаць Барыс Сачанка).

У нядзелю (22.07.) адбыліся беларускія сесіі на тэму: галоснасць і адкрыцці ў беларускай літаратуры. Нью-йоркскае асяроддзе прадстаўлялі: **Томас Бэрд** („Газета „Наша Ніва“), **Янка Запруднік** („У. Ігнатоўскі як гісторык і дзяржаўны дзеяч“), **Вітаўт Кіпель** („Белыя плямы ў беларускай бібліяграфіі“) і **Зора Кіпель** („Беларускія пераклады XVI ст. заходнееўрапейскіх аповесцяў „Трыстан“ і „Тындаль“). Выступілі таксама **Джэймс Дынглі** („Вершы Н. Арсенневай 1941—1943 г.“) і **Вэра Рыч** з Лондана („Наватарская роля А. Гаруна“) і **Аляксандр Баршчэўскі** з Варшавы („Антон Луцкевіч як літаратурны крытык“).




### АДНАК УНІЯЦТВА?

**„Неабходна адраджэнне Уніяцкай царквы. Гэта ж аўтэнтычнае веравызнанне беларусаў, якое выводзіцца непасрэдна ад прыняцця хрысціянства і якое можа нас усцерагчы ад атэізма. Дваццаць працэнтаў грамадства — гэта каталікі, другія дваццаць — праваслаўныя, а больш чым палова насельніцтва знаходзіцца па-за рэлігіяй. У гэтым сэнсе з'яўляемся мы ў Еўропе краінай зусім язычаскай. І таму фронт, не зважаючы на супярэчнасці, імкнецца адрадзіць уніяцкую рэлігію — стрыжань беларускай культуры.“**

**ЮРЫ ХАДЫКА**
**намеснік старшыні БНФ „Адраджэнне“ (з інтэрв'ю для часопіса „Тыгоднік Беластоцкі“ ад 14.07. 1990 г.)**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 371

# ЗОСЯ САЧКО

## З НОВЫХ ВЕРШАЎ

* * *

як і выду з біды
нэ стану ліэпша
клятву забуду
в часові ростоп'юсь
а солодосьць од жыщя
— што од вуодкі
і всё за крыламі...
е правды (так як і людэ)
од зараня на бэрэгах другіх
пуд разным дахом
вэзаті тое што нэ вэжэцьця
само з сэбэ
так ціэлэ жыще...



* * *

нэ полюбуюсь чужымі судьбамі
нэ нагоруюсь
напрасно россуждаю
сэрэбрысты струны жму...
нэ мое жыще і мое
— нэ для мэнэ в пуользу
прымі всё на здоров'е
— кажэ вуольшына
в собіэ і в водіэ —
а знайдэш жыще жывое
і віэчны кунэць



* * *

а дніэ як тэплы звіэры
мручат і труцьця коло нуог
называют то домом
і дуом удома
пора встрычаті вэсну
на прызбі
ліниво розгортавшы сонце
росплесті коріэнэ
а ногі побіжат

* * *

чы унэсэшся понад всё што
нэспоўнянэ
чы понад яблыніэ зацьвітэм
і зэлень можэ быті друга
у вэсны
колі в сіэты вэчур в сіэту нуоч
в сюю мінуту
туолько в снах падае нуож
і нэ росколуе абраза в рамах
туолько в снах
міняю карточкі за шклом
і нэхто нэ спротівляецьця.

* * *

цьвіэтом засыпае голов
старая яблыня всё шчэ цьвітэ
і родіт
— то як добрэ простэ слово
которым встрычают от порога
колі ужэ нэма дому
і в двэрох сквозьняк

* * *

вэсна якбы і нэ прышла
— нэ дотыкала я сей руок зэмліэ
зіэлём нэ набраліcь рукі
цьвіэт і пэрша зэлень
то як наша мінутна піэсьня
в огнёві
наш біэлы вэлён
любов што споўняецьця там



Фота М. Гайдука

* * *

ужэ буольш часу нэ будэ
і ніц ліэпшого
розгортай: угэль і зоры
бледнут в поранкові
роза і попэл
одінаково сыпюцьця
пуд полу тіэня
закрунув віэтёр по новому
вчорашні дэнь
— а і то нэ надіэя
дэ лень шчэ што хочэш
то тутай і тэпэр
— і нэколі



* * *

осталась сама собіэ
сама собіэ і туой зэлені
што всё вэрнэцьця на вэсну
і будэ як пэршы раз
што вчорай казала вульшыні
обэрнулось протів мніэ
а вульшына в нэбі ростэ
і в водіэ
і нэ морочыт і нэ туманіт
і нэ крычыт
повіэру — нэ повіэру
— до сэрця прыжму
што рацыя моя бэз сэнсу
і всё по моюой стороніэ

* * *

пора пора на чай
всё ждаті на добры час
— і з трывогою прыгортаюцьця
на сёмы образ люстра

нэ пэрэробіш роботы

нэма кунця
купляня того што трэба
і што робіт туолько завал

нэ сядэш
і нэ скажэш: ото я для сэбэ

нэ ты знайдэш час
а час знайдэ тэбэ

і ужэ крук летіт
і выдзёбае око



Фота У. Завадскага

* * *

нэ подумай часу разом діліті
што для тэбэ нэ в пуользу
для блізькіх тож
на добрэ нэ выдэ
а колі моцуешься з собою
хоч пусто — нэ пі
і нэ дурыэй жэ сілы дужо
а куды еі діваті нэ бачыш можэ
послухай дрозда
вымыйся босо ступі
всё ж ступаеш
в сьвятое сьвятых
а куолько твого тіэня в дэрэві
ноч мінаўшы і дэрэва нэ замічаў

* * *

за сінім бором — новэ слово
а буор в тобіэ шуміт

ікона нэ запыляна — выплач око
коб жыті нэ трэба жывэі воды

в прозрачных ночах
навылют бачым
входівшых в дэрэва в траву
в нас



Фота Я. Целушэцкага

# З'ЕЗД ЗБВБ

23 чэрвеня 1990 г. у зале пры Беларускай бібліятэцы-музеі імя Францішка Скарыны ў Лондане адбыўся 44 агульны гадавы з'езд Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. А 14 гадзіне прысутных прывітаў старшыня ЗБВБ Янка Міхалюк. Папрасіў ён айца Аляксандра Надсона, каб з прысутнымі сказаў „Ойча наш" і памаліўся за поспех з'езда. У далейшым была выбрана мандатная камісія, якая сцвердзіла важнасць з'езда. Пасля кароткага перапынку адбыліся выбары Прэзідыума з'езда ў асобах: старшыня — М. Швэдзюк, сакратары — Я. Саўковіч і П. Грыгальчык. Сакратаром уступаючай Управы быў прачытаны пратакол папярэдняга з'езда. Быў ён вельмі змястоўны і падрабязны, што прыдае пратаколам гістарычнай важнасці.

Справаздачу ўступаючай Галоўнай управы прачытаў Янка Міхалюк, а справаздачу аб дзейнасці харытатыўнай секцыі — скарбнік ЗБВБ П. Асіповіч. Ён падкрэсліў, што дзякуючы фондам ЗБВБ, якія маюцца з прыходу маёмасці ЗБВБ, секцыя змагла фінансава дапамагчы Беларускай місіі, якая збірае грошы на фонд „Дзеці Чарнобыля". Старшыня місіі а. А. Надсон паінфармаваў, што ўжо сабрана даволі вялікая сума грошай, за якія будзе можна купіць лякарствы і медычныя інструменты. Будуць яны давезены грузавіком на Беларусь вядомым тут беларускім дзеячом М. Баяроўскім.

Пасля дыскусіі над справаздачамі сабраныя адобрылі дзейнасць уступаючай Управы і правялі выбары ў новую. Як усе спадзяваліся, ізноў старшынёю быў выбраны Янка Міхалюк, намеснікам старшыні і сакратаром — Я. Жданковіч, скарбнікам — П. Асіповіч, а сябрам управы — Я. Сіляўка.

Галоўная ўправа ЗБВБ пераважна выбіраецца з сяброў Лонданскага аддзела, таму што Лондан з'яўляецца палітычным і культурным цэнтрам заходняга свету. З'езд быў закрыты адспяваннем нацыянальнага гімну „Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Пасля з'езда прысутныя былі запрошаны на абед, падрыхтаваны спадарыняй Міхалюк. Пры чарцы віна і смачным абедзе госці падзяліліся ўражаннямі з жыцця беларускай эміграцыі. Прыемна было чуць сваю родную мову, якую амаль ніхто не забыў. Надалей гарыць любоў у сэрцах эмігрантаў, любоў да далёкай Бацькаўшчыны і яе народа.

**С.Б.**

## Свойскія малюнкі



*Беласток. Палац Браніцкіх. Малюнак У. Петрука.*

# САКРАТ ЯНОВІЧ
# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

— 6 —

У Мінску не адчуваецца сталічнасці. Справа нават не ў ягонай безарыгінальнасці гарадскога пейзажу, і не ў расійскай заглухласці, на фоне якой беларускія сям-там надпісы ды шыльды здаюцца бестактоўным жартам, як бы даўно абрыдлым і таму не выклікаючым вулічнай рэакцыі... Псіхалогія калоніі пераўтварае ў бяссэнс усякую тут спробу дзелавой гутаркі. Узвычаеная пакаленнямі аглядка на Маскву дэградуе беларускую сталіцу да абласнога цэнтра. Спраўджаецца гэта хаця б у дробнай аж да банальнасці справе продажу нацыянальнай літаратуры ў Еўропу; усё яшчэ адбываецца яна цераз маскоўскія фірмы, якім дакладна напляваць на беларускія інтарэсы.

Амаль двухмільённая метраполія беларусаў праяўляе да смешнага невялікі інтэлектуальны патэнцыял. У дзесяць разоў меншай за Беларусь краіне эстаў, у іхным Таліне можна налічыць у газетным кіёску **у столькі ж разоў больш** перыядычных і штодзённых выданняў. Хацелася пагаманіць аб гэтым у братняй мне арганізацыі, у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, дзе застаў я штатнага сакратара, які назваўся Жалязоўскім. Нічога цікавага ў Беларусі няма, пуста ў ёй ды гола! — паведаміў мяне гэты прадстаўнік эліты, і паплыў па хвалях хвальбы Польшчы і яе культуры. Для мяне, беларуса з Беластока, прагучэла гэта абразліва.

Недзе на Ленінскім праспекце, у краме з тэхнічнымі таварамі, заманулася купіць электрычную разетку. Але дудкі! — прадаўшчыца папрасіла, каб паказаў я ёй савецкі пашпарт з тутэйшай прапіскай. Так абараняюць эканамічны рынак ад выкупаў. Кажуць, каб літоўцам не даць ходу ў незалежнасць... Блакада Літвы па ўказцы Крамля мае кароткія ногі: шмат-якія фабрыкі знаходзяцца ў кааперацыі з віленскімі, іхная ўзаемазалежнасць у прадукцыі прымушае мінскае начальства цішком успамагаць сепаратысцкіх „лабасаў", каб унікнуць беспрацоўя і ў вернай з верных рэспублік.

Можна ўгледзець у гэтым некаторыя рысы самастойнасці Беларускай ССР, пра што цяпер нямала пішуць, але мала праўды. Аднак жа і такая „гаварыльня" нешта змяняе ў народнай псіхіцы ў напрамку пазітыўных адносінаў да бацькаўшчыны.

У завулку паблізу вуліцы Фрунзэ здаўна функцыянуе польскае Генеральнае консульства. У сучасны момант яно асабліва дбайна наглядае за сітуацыяй польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі. І трэба прызнаць, што робіць яно гэта з добрымі вынікамі; яго пастулаты савецкія органы сквапна рэалізуюць. Відаць гэта на прыкладзе інцыдэнту вакол выступлення Барскага па Беларускім тэлебачанні, пад лета мінулага года. Алесь, менавіта, панаракаў на цяжкі лёс беларускага руху ў Беластоцкім краі, што сустрэлася з дыпламатычным пратэстам польскай пляцоўкі. Думаеце, нехта з савецкабеларускага боку закінуў хоць слоўка якое ў абарону нашай меншасці? Як і нельга спадзявацца таксама, каб афіцыйны Мінск імкнуўся да таго, чаго мы дамагаемся ўжо не першы і не другі раз: адкрыцця консульства Беларускай ССР у Беластоку. Варшава, бачыце, знервуецца... Пасля Масквы — гэта другі беларускі палітычны страх.

*(Працяг будзе)*

### ФІЛЬМ ПРА БОРТНІЦТВА

Яшчэ некалькі гадоў — і зрабіць гэты фільм было б ужо немагчыма, гаворыць інж. Ежы Карнева з Давернага таварыства (Integrated Trusteeship). Фактычна, па даўнейшым пчалярстве, г.зн. бортніцтве, слядоў штораз менш і менш. Астанкі бортнічых прыладаў ці выразкі калодаў дрэў з борцямі захаваліся ў некалькіх музеях або скансенах. Тое-сёе з гэтых рэчаў можна знайсці яшчэ ў Белавежы. Туды і накіравалася здымачная група пад кіраўніцтвам рэалізатара фільма інж. Е. Карневы. Запісаны былі відэакамерай выразкі з борцямі, бортнічныя прылады і вопратка, посуд на мёд, якія захоўваюцца ў прыродазнаўчым музеі. У самай пушчы зняты дрэвы, на якіх знаходзяцца яшчэ борці, хаця яны, праўда, і пустуюць дзесяткамі гадоў. Па дарозе фільмоўцы заглянулі і ў белавежскі скансен, дзе захоўваецца некалькі вулляў-калодаў, а таксама на адну прыпушчанскую пасеку.

Здымкі будуць выконвацца яшчэ ў Навагродзе, Цехановцы, Сважэндзы, што ля Познаня, і, бадай, у Жэгестове. Паўгадзінны фільм (рабочы загаловак „Борці, вуллі...") будзе знаёміць не толькі з астанкамі даўнейшага пчалярства, але і з ім самім. Раскажа пра выраб прыладаў, прадукцыю мёду, працу бортнікаў. Яго копіі трапяць у Італію, а, магчыма, і ў Японію. Адну копію атрымае Белавежскі нацыянальны парк, каб паказваць яго турыстам і экскурсантам.

**Пётр Байко**

### ЗМЯНІЛАСЯ ТОЛЬКІ НАЗВА

Калі вясной мінулага года выязджаў я з Бельска-Падляшскага, на вуліцы Варынскага пачаўся рамонт. Вуліцу сталі раскопваць, сарвалі палатно. Зараз бачу, што вуліца ўжо называецца Панятоўскага, але хаця прайшло больш года, то рамонт яшчэ не скончыўся. Вуліца (усяго 400 м) далей застаецца непраезнай. Ці гарадскія ўлады не памятаюць, што тудою ездзяць у Белавежу?

**А. Гаўрылюк**

# БРАТЫ МІРАНОВІЧЫ

*На мінулым тыдні мы пазнаёмілі чытачоў з выказваннямі Яўгена Міргановіча, доктара гістарычных навук і дзеяча Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Сягоння слова даецца яго брату Антону Міргановічу, таксама доктару і дзеячу БДА. Прыпамінаем пытанні, якія мы паставілі абодвум братам:*

*1. Што ў Вашай дысертацыі заслугоўвае шырэйшай увагі?*

*2. Як бачыце сваю далейшую навуковую дзейнасць?*

*3. З чаго вынікае Ваша палітычная актыўнасць у беларускім руху?*

*4. Як ставіцеся да навуковай і палітычнай кар'еры Вашага брата?*

**АНТОН**

1. Мая дысертацыя была на тэму: „Падляшскія праваслаўныя асяродкі і арганізацыі пад канец XVI і ў XVII ст.ст.". Я напісаў яе пад навуковым кіраўніцтвам прафесара Станіслава Александровіча і абараніў 7 чэрвеня г.г. ва Універсітэце імя М. Каперніка ў Торуні. Тэма гэтая поўнасцю ніколі не распрацоўвалася, я меў нагоду пакарыстацца нераскрытымі матэрыяламі ў архівах Ленінграда, Масквы і Кіева, якімі даследчыкі дагэтуль не карысталіся. У першай частцы свае працы я паказаў стан Праваслаўнай царквы напрыканцы XVI ст. перад Берасцейскай уніяй. Я апісаў яе арганізацыйную структуру і асноўныя цэнтры рэлігійнага жыцця ў заходняй частцы беларускіх земляў. Я паказаў таксама адносіны свецкага і духоўнага асяроддзяў да рэлігійнай уніі 1596 года. Агульна кажучы, ідэю рэлігійнай уніі ні адно, ні другое асяроддзе ў большай частцы не апрабавала.

У другой частцы працы я прадставіў сітуацыю Праваслаўнай царквы на Падляшшы ў XVII ст. з улікам тых зменаў, што наступілі пасля уніі. Тут я памясціў манаграфіі ўсіх праваслаўных асяродкаў, якія змагаліся супроць уніі. Важнейшыя з іх: Багаяўленскае брацтва ў Бельску, Святамікалаеўскае брацтва і манастыр у Бельску, Святамікалаеўскае брацтва ў Драгічыне, Святатроіцкі і Святаспасаўскі манастыры ў Драгічыне, Святамікалаеўскае брацтва ў Кляшчэлях, Успенскі манастыр у Заблудаве, Ануфрыеўскі манастыр у Яблачыне, Праабражэнскі манастыр у Нараўскай пушчы, Дабравешчанскі манастыр у Супраслі. Нельга было не заняцца асвятленнем значэння праваслаўных брацтваў у развіцці асветы і культуры ў тадышнім грамадстве. Шмат месца я прысвяціў юрыдычным зменам у палажэнні царквы і яе святароў у XVII стагоддзі. Урэшце, я склаў карту, якая адлюстроўвае стан праваслаўя напрыканцы XVI стагоддзя. На ёй памешчаны сядзібы ўсіх тадышніх праваслаўных прыходаў і дэканатаў уключна з пазначэннем, каму належалі землі, на якіх былі распаложаны парафіі, гэта значыць, каралю ці нейкаму магнату. Цікава ведаць, што праваслаўныя парафіі былі і ў Высокім Мазавецкім, і ў Венграве, у Тыкоціне і Цеханоўцы, у Кнышыне і Даўспудзе, і ў Косаве-Рускім каля Варшавы. Гэтай картай, як мне стала вядома, зацікавіліся даследчыкі з Люблінскага каталіцкага універсітэта.



2. Зараз я займаюся інвентарамі маёмасцяў старабеларускіх магнацкіх родаў Хадкевічаў, Альковічаў, Радзівілаў. Гэта надта цікавыя матэрыялы. Хачу таксама выдаць невядомую даследчыкам хроніку цудаў, звязаных з іконай Божамацеры ў Старым Корніне (XVIII ст.), і рыхтую ў друк апісанне ўзнікнення Жыровіцкага манастыра (1653). І яшчэ рыхтую ў друк невядомы гербар Сенцілы. Галоўнай маёй задумай і адначасова марай ёсць кніжка аб усіх культурных цэнтрах на беларускіх землях у XVI—XVII ст.ст.

3. Перш за ўсё з пачуцця абавязку, перад грамадствам, перад сваімі продкамі і перад агульным станам беларускасці ў Польшчы.

4. Мой брат — гэта добры гісторык. Не надта спрыяльныя ўмовы ў яго для навуковай працы. Я лічу, што ён у змозе напісаць нам добрую гісторыю беларусаў у Польшчы з 1918 года па сённяшні дзень. А як палітык? Думаю, што таксама ён нас не падвядзе.

Запісаў **Ян Максімюк**

# КАСТУСЬ СІДАРОВІЧ

28 мая адышоў ад нас Кастусь Сідаровіч... Беларус, які ўсё сваё свядомае жыццё заставаўся сабою, які змагаўся за права быць беларусам... Шмат маладых людзей цяпер можа сказаць, што нічога тут надзвычайнага, што сёння сярод нас сотні хлопцаў і дзяўчат, якія гавораць і думаюць па-беларуску, якія ганарацца сваім беларускім паходжаннем. Аднак жа жывем мы ў іншы час, калі нам прынамсі з афіцыйнага боку не пагражаюць рэпрэсіі за тое, што мы хочам заставацца беларусамі...

Кастусь Сідаровіч быў адным з першых на Беласточчыне, якія пачалі змаганне за родную мову і культуру. Нарадзіўся ён у 1906 годзе ў Беластоку, тут пачаў сваю адукацыю ў пачатковай школе, у якой настаўнікі вучылі мясцовых праваслаўных дзяцей, што яны прыналежаць „истинно русскому народу". У 1915 г., як большасць праваслаўных жыхароў Беласточчыны, Кастусь апынуўся са сваімі бацькамі ў глыбіні Расійскай імперыі, у бежанстве. У Екацярынаслаўі, дзе ён прадаўжаў вучобу, яго называлі палякам і далей пераконвалі, што ўсе праваслаўныя павінны адчуваць „духоўнае адзінства з рускім народам". Калі Сідаровічу было 16 гадоў, ён вярнуўся ў Беласток. Тут ён упершыню пачуў пра нейкіх беларускіх паўстанцаў, якіх судзілі ў мясцовым судзе. Гэта была славутая судовая справа 45-ці, якія змагаліся за вольную Беларусь, супроць Рыжскага дагавору, раздзяліўшага беларускія землі між Польшчай і бальшавіцкай Расіяй. Гэта паўплывала на фарміраванне нацыянальных поглядаў маладога Сідаровіча.



*Апошні здымак: Кастусь Сідаровіч выступае на Устаноўчым кангрэсе БДА 10 лютага 1990 г.*

Вельмі хутка прыйшлі і першыя палітычныя дасведчанні К. Сідаровіча. У 1926 г. ён, як член „Грамады", упершыню пабачыў, як выглядае паліцыйная правакацыя. На ўдзельнікаў з'езда „Грамады", які праводзіўся ў жніўні ў Беластоку, кінулі групы эндэцкіх і пэпээсаўскіх баевікоў. Ва ўзніклай сумятні паліцыя хапала, каго хацела.

У „Грамадзе" Сідаровіч пачаў змаганне, якое вёў да канца сваіх дзён: змаганне за беларускае школьніцтва. Паводле юрыдычнага стану на той час, утвараць беларускія школы ў Беластоцкім ваяводстве можна было толькі ў Гродзенскім і Ваўкавыскім паветах. Таму ў іншых паветах ратаваць родную мову трэба было іншымі спосабамі. Пасля разгону „Грамады" Кастусь Сідаровіч, Шыман Кузьміч, Анатоль Кавальчук і Аляксандр Андраюк стварылі ў Беластоку аддзел Таварыства беларускай школы (ТБШ). Дзейнічаючы ў гэтай арганізацыі, яны заснавалі тэатр, хор, літаратурную і дэкламатарскую секцыі. Фінансавыя сродкі арганізавалі рознымі спосабамі: праводзілі зборы грошай, збіралі членскія складчыны, прадавалі білеты на канцэрты і тэатральныя спектаклі.

Амаль усе аддзелы ТБШ былі інфільтраваны камуністамі. Калі б паліцыі ўдалося выявіць, што ў арганізацыі знаходзяцца прадстаўнікі „Камінтэрну", яна ліквідавала б яе. Як казаў мне К. Сідаровіч, „камуністы пхаліся да нас без перапынку". „Ім не беларуская справа была ў галаве, а сусветная рэвалюцыя". ТБШ хацелі зрабіць яшчэ адным агентурным звяном „Камінтэрну". У 1934 г. камуністам удалося ўвясці ў ТБШ у Беластоку нейкага Зялінскага. Паліцыя пакарысталася гэтым адрасу, ліквідаваўшы беластоцкі аддзел ТБШ, дарэчы, самы актыўны аддзел у Заходняй Беларусі. Сідаровіч, нягледзячы на арганізацыйны развал, не пакінуў працы на ніве роднай культуры. Арганізаваў з сябрамі канцэрты і спектаклі ў прыватных памяшканнях. У 1938 годзе яшчэ раз спрабаваў арганізаваць легальную структуру: тэатральнаспявачы кааператыў „Полымя". Дазволу на легальную дзейнасць кааператыў не атрымаў.

У час нямецкай акупацыі Сідаровіч выступаў у хоры, які дзейнічаў пры Беларускім камітэце. Пасля вайны яму часта даводзілася растлумачваць афіцэрам дзяржаўнай бяспекі, чаму якраз спяваў у канцэртных залах, а не ў лесе для партызанаў.

У 1945 г. Кастусь Сідаровіч быў адным з першых, якія арганізавалі беларускую школу ў Беластоку. Асабіста прымаў удзел у рамонце будынку на вуліцы Нарэўскай, потым бараніў школу перад пераўтварэннем яе ў школу рускамоўную, да чаго імкнулася адміністрацыя. Аднačасова быў ён аніматарам кааператыву „Полымя", які аднавіў сваю дзейнасць у 1944 г. Аднак і новая ўлада хутка ліквідавала ўсё, што называлася беларускім. У 1947 годзе перасталі існаваць усе школы, створаныя беларускімі дзеячамі пасля вайны.

Шмат месца заняло б апісанне актыўнасці К. Сідаровіча як дзеяча БГКТ і карэспандэнта „Нівы". Пра гэта мы можам даведацца, гартаючы гадавікі „Нівы" або старонкі „Беларускіх календароў". Я асабіста не памятаю ні аднаго канцэрту беларускай песні, ні адной беларускай сустрэчы, калі не прысутнічаў К. Сідаровіч. І нават наладжаны студэнтамі Беларускі народны універсітэт ён не абмінуў увагаю.

Калі я гаварыў з ім апошні раз, у сакавіку, ён сказаў мне, што хоча закончыць свае ўспаміны пра акупацыю і пасляваенны час. Ці гэта ўдалося яму? Не ведаю... Магчыма, што нехта з дзяцей або ўнукаў ведае пра гэта больш. Беларусам Беласточчыны ягоныя ўспаміны важныя. Кастусь Сідаровіч тварыў нашу гісторыю. Ён заслугоўвае нашай пашаны і памяці.

**Яўген Міранович**

# Наш агульны смутак

(Працяг са стар. 1)



ных секцый. Збягаліся людзі з навакольных вёсак. Сярод натоўпу мясцовыя заўважылі незнаёмца. Быў гэта мужчына гадоў 20—25. Штораз папраўляў ён акуляры і ўсміхаўся. Адзін з мясцовых мужчын схапіў яго за рукі. Анна Плешук кінулася да незнаёмца як да злодзея. Незнаёмца выратавала ад непрыязнага натоўпу паліцыя, якая забрала яго ў сваю машыну і адвезла ў Сямяцічы. Быў гэта жыхар Варшавы, дзед якога выводзіцца з Консkіх Гор. Прыехаў на адпачынак.

Капітан Мікалай Катэльчук з Раённай управы ўнутраных спраў у Сямяцічах на месцы пажару быў а гадзіне першай, у пятніцу. Мінулы дзень (у Сямяцічах святочны) быў цяжкі для мясцовай паліцыі. Абакралі Біша з Турнай, Навіцкага з Вулькі і Плешукоў з Шумілаўкі. У Васілеўскага з Консkіх Гор быў украдзены конь. Паліцыя стала падазраваць Яна С., які па пропуску прыехаў на тры дні з турмы.

На Грабарку прыбылі прадстаўнікі пракуратуры, аперацыйна-следчая група паліцыі, эксперты з Ваяводскай пажарнай управы. Сяргей Ткачук з Энергетычнага раёна ў Бельску-Падляшскім, эксперт па электрычнасці, адкінуў магчымасць узнікнення пажару ад электраправодкі.

Палкоўнік Віталій Бонда, намеснік каменданта Ваяводскай пажарнай камендатуры ў Беластоку, мяркуе, што агонь быў падложаны з правага боку прытвора. Магчыма таксама, што агонь быў падложаны і ў другім месцы ў спалучэнні падрубаў з левага боку храма, а паказвае на гэта пажар пад падлогай у сярэдняй частцы царквы.

Агонь знішчыў многа каштоўных прадметаў. Згарэлі дзве металічныя харугвы, працэсійная ікона ў металічным абрамленні, алтарны крыж, чашы, кованае панікадзіла, маляваны драўляны крыж (усе з XIX ст.), дарахраніцельніца з 1934 г. Сярод кніг былі: „Псалтыр", надрукаваны ў Кіеве ў 1742 г., і „Актоіх" з 1848 г. Растапіліся званы — вялікі і два малыя, згарэлі плашчаніцы — адна з іх была вышытая золатам. У іканастасе знаходзілася каштоўная ікона Прасвятой Тройцы (з I паловы XVIII ст.), а над ёю ікона Божай Маці з дзіцём сярод апосталаў Кірыла і Мяфодзія (II пал. XIX ст.). Беззваротна прапалі сучасныя паліхроміі вядомых іканапісцаў Дабжанскага і Навасельскага.

Нядзеля, 15 ліпеня. На багаслужбе ў манастырскай царкве мнагалюдна. Апрача прыхаджан многа вернікаў з іншых прыходаў. Пасля набажэнства манашкі пайшлі памаліцца на папялішчы.

— Пажар — гэта наш агульны смутак, — сказала ігумення Людміла да сабраных вернікаў. Выказала яна ўпэўненасць, што царква будзе хутка адбудавана. Гатоўнасць дапамогі заявілялі ўсе прысутныя. Жанчына з вёс-



---

Яўгенія Шымчук

# СТАНОВІШЧА БНР НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

Мерай развіцця народнай палітычнай думкі з'яўляецца, на мой погляд, ступень спеласці ідэі незалежнай дзяржавы ў народзе. Народ можа развівацца поўнасцю толькі ў сваёй уласнай дзяржаве. Усялякія формы аўтаноміі ці федэрацыі карысныя, як давяло жыццё, для народаў вялікіх, моцных і багатых. Калі народ знаходзіцца яшчэ на этапе нацыянальнага ўсведамлення, свая дзяржава можа паскорыць гэты працэс і давесці да поўнага росквіту. Значэнне дзяржавы зразумелі многія беларускія дзеячы ў 1918 г., хаця шлях да зразумення гэтай ідэі не быў просты. Раней існавалі канцэпцыі і планы „Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага", аўтаноміі ў рамках Расійскай Дэмакратычнай Рэспублікі і толькі тады, калі аказалася, што Расія не мае супольнага інтарэсу з Беларуссю і далей лічыць яе сваёй Паўночна-заходняй вобласцю, ноччу з 24 на 25 сакавіка 1918 г. на пасяджэнні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) была прынята пастанова аб незалежнасці БНР.

Кожная дзяржава павінна лічыцца з тым, што яна не адна, што з'яўляецца часткай міжнароднага асяроддзя і без падтрымкі з боку другіх дзяржаў доўга не ўтрымаецца. Імкненне прыдбаць сабе прыхільнікаў характэрнае ўсім дзяржавам, таму што гэта неабходная ўмова для ўтрымання дзяржаўнасці. Асабліва важным гэта было для БНР з той прычыны, што па беларускія землі выцягвалі рукі Савецкая Расія, Польшча, а таксама Літва і Украіна. А свайго войска БНР яшчэ не паспела стварыць. Цяжкасці былі тым большыя, што беларускія салдаты знаходзіліся на ўсіх франтах Усходняй Еўропы, ды толькі не на Беларусі. Беларускія палкі былі высланы на франты: паўночны, паўднёва-заходні, румынскі, а Беларусь „абараняла" войска, у якое ўваходзілі салдаты ўсіх іншых нацыянальнасцей. Таму БНР шукала магчымасці, каб наладзіць добрыя адносіны са сваімі суседзямі. Атрымаць прызнанне і дапамогу другіх дзяржаў было адной з найважнейшых задач палітыкаў БНР.

Аб абвяшчэнні незалежнасці БНР Народны сакратарыят (тагачасны ўрад БНР) паведаміў вялікія дзяржавы 18 красавіка з Кіева, дзе знаходзілася тады беларуская дэлегацыя (А. Цвікевіч і М. Доўнар-Запольскі). Былі разасланы радыё-тэлеграмы да еўрапейскіх народаў і дзяржаў, у якіх раз'яснялася сутнасць падзей на Беларусі.

Ці ўдалося палітыкам БНР наладзіць адносіны з другімі дзяржавамі?

Самымі важнымі былі адносіны з Германіяй. Яна ж акупавала значную частку Беларусі. Палітыка нямецкіх улад на Беларусі была неадназначная. З аднаго боку стараліся яны не парушаць пастановы Брэсцкага міра, а з другога, у нейкай ступені дапускалі дзейнасць беларусаў у кірунку дзяржаўнага будаўніцтва. Калі немцы занялі Мінск, тады занялі дом, у якім размясціўся Народны сакратарыят, канфіскавалі касу з грашыма і знялі беларускі сцяг, замяняючы яго нямецкім.

Аднак немцы не распусцілі Народны сакратарыят і Раду І Усебеларускага з'езда, не пратэставалі і не перашкаджалі выдаваць устаўныя граматы: 9 сакавіка, якая ўстанаўлівала БНР, і 25 сакавіка, якая абвяшчала яе незалежнасць. Усё гэта адбывалася пры ціхай згодзе



кі Барок, што каля Гайнаўкі, прыедзе парадкаваць папялішча. Для ахвотных працаваць пры пабудове царквы манашкі прапануюць начлегі.

Ноччу, з суботы на нядзелю быў арыштаваны на станцыі ў Сычах Ян С., які хацеў збегчы з непрыязнай яму тэрыторыі. Пасля доўгіх допытаў прызнаўся ён афіцэрам паліцыі, што гэта ён спаліў царкву ў Грабарцы. У панядзелак каля гадзіны 4 адбыўся агляд на месцы злачынства. Прывезены сюды 32-



гадовы Ян С. на працягу дзвюх гадзін паказваў пракурорам і паліцыянтам, як падпальваў царкву. Пачаткова планаваў украсці залаты крыж. Уламацца ў царкву не ўдалося. Тады хацеў украсці легкавую машыну, якая быццам прыналежыла манастыру, але машыны не знайшоў. Усхваляваны чарговай няўдачай, вырашыў падпаліць царкву. Агонь падлажыў да дзвярэй у прытворы...

Пракурор Анатоль Тарасюк з Раённай пракуратуры ў Бельску-Падляшскім, які вядзе следства, мяркуе, што Ян С. (будучы на пропуску, ён не вярнуўся тэрмінова ў турму і ўчыніў шэсць узломаў і крадзяжоў) дзейнічаў у адзіночку. Не даказана сувязь Яна С. з чалавекам, які быў затрыманы пры пажары царквы. Зараз вядзецца следства. Аб выніках будзем чытачоў інфармаваць.

* * *

Згарэла чарговая драўляная старадаўняя царква на Беласточчыне. На працягу апошніх гадоў агонь паглынуў цэрквы ў Кленіках, Крушынянах, Чыжах, Ячне і Нарве. Гарэў таксама стырап'ян на будове Святадухаўскай царквы на Антанюку ў Беластоку. Зараз пайшла з дымам царква ў Грабарцы.

Гэтыя факты выклікаюць мноства пытанняў і сумненняў. Ці папярэднія пажары гэта сапраўды нешчаслівыя выпадкі, ці мэтанакіраваная дзейнасць? Цэрквы загараліся найчасцей ноччу пасля царкоўных святкаванняў.

Апошнія два пажары здарыліся ў чацвер, 12 чысла: у Нарве — у красавіку, у Вялікі чацвер, на Грабарцы — у ліпені, на Пятра і Паўла.

Ці такія меркаванні маюць нейкую дозу рацыі? Ці магчыма высветліць да канца ўсе сумненні? Праваслаўнае грамадства моцна занепакоена такімі выпадкамі і асуджае кожную спробу замаху на сваю рэлігію.

**В. Луба**

Фота Уладзіслава Петрука





немцаў. Але на патрабаванне Рады БНР прызнаць афіцыяльна незалежнасць Беларусі немцы далі адмоўны адказ. Яны спасылаліся на Гаскую канвенцыю з 1907 г. (датычыць яна законаў і звычаяў вядзення сухапутнай вайны), якая гаворыць, што ўлада на акупаванай тэрыторыі належыць акупанту, а таксама на Брэсцкі мір, у якім немцы абавязаліся не падтрымоўваць новыя дзяржаўныя ўтварэнні.

Савецкія гісторыкі закідаюць БНР, што яна арыентавалася на Германію. Узнікае тут пытанне: ці была іншая магчымасць? Савецкая Расія зусім не прызнавала Беларусі, а Германія яшчэ ў 1916 г. першая прызнала беларускі народ і яго мову. І хаця афіцыяльна не прызнавалі БНР, то дазвалялі на дзяржаўную дзейнасць. Прыклад Літвы паказваў, што арыентацыя на Германію дае шанц на ўтрыманне дзяржаўнасці. 23 красавіка кайзер Вільгельм II прызнаў незалежнасць Літоўскай Рэспублікі. Таму і Рада БНР вырашыла 25 красавіка паслаць Вільгельму II тэлеграму, у якой Рада дзякавала за вызваленне Беларусі і прасіла абароны дзеля ўмацавання дзяржаўнай незалежнасці і непадзельнасці краіны.

У гэтай самай справе беларускія дэлегаты на Украіне прадставілі 25 красавіка мемарыял нямецкаму паслу ў Кіеве. Аднак цэнтральныя нямецкія ўлады да беларускіх прапаноў аднесліся абыякава.

Інакш складваліся адносіны БНР з Галоўным камандаваннем X арміі, якая знаходзілася на Беларусі, а якой кіраваў ген. Эрых фон Фалькенгейн. Пераехаўшы ў Мінск, нямецкае камандаванне сустрэлася з дынамічным беларускім рухам, які выклікаў іхнюю цікавасць. Стварэнне БНР ліквідавала расійскі клін, які паўстаў паміж Украінай і Літвой, Латвіяй і Эстоніяй, і таму Фалькенгейн падтрымоўваў дзяржаўную дзейнасць беларусаў. 27 мая ён прыняў прадстаўнікоў Рады БНР (І. С. Сераду, Я. Варонку, П. Алексюка і П. Аўсяніка) і заявіў, што „акупацыйныя ўлады хочуць бачыць у Радзе пасрэдніка паміж нямецкімі ўладамі і беларускім народам". 21 чэрвеня Я. Варонку (старшыня Рады БНР) прыняў начальнік штаба X арміі фон Штопф і даў згоду на ўтварэнне пасадаў беларускіх саветнікаў пры нямецкіх камандзірах.

Нямецкія ўлады дазвалялі таксама на культурную і асветніцкую дзейнасць. Для прыкладу, выходзіла тады 14 беларускіх газет і часопісаў.

Грамадзяне Беларусі, выязджаючы за граніцу, атрымоўвалі пашпарты ад БНР і, што важнае, многія дзяржавы іх прызнавалі.

У лістападзе 1918 г. немцы на захадзе панеслі паражэнне. Сталі адступаць з Беларусі, а Рада БНР пераехала ў Вільню (3.12.1918), а потым у Гародню.

Самыя блізкія адносіны былі ў БНР з Украінай. Гэтыя дзве дзяржавы злучаў падобны лёс: абедзве яны знаходзіліся на этапе будовы сваёй дзяржаўнасці.

Ужо Вялікая Беларуская Рада, а потым Выканаўчы камітэт І Усебеларускага з'езда прабавалі атрымаць падтрымку Украіны.

Пасля абвяшчэння БНР супрацоўніцтва пайшло далей. 22 сакавіка ў Кіеў выехала дэлегацыя Рады БНР (Аляксандр Цвікевіч і Мітрафан Доўнар-Запольскі) з мэтай:

1) паведаміць Украінскую Народную Рэспубліку аб абвяшчэнні БНР,

2) абмяняцца дыпламатычнымі прадстаўнікамі,

3) паставіць пытанне аб дзяржаўнай пазыцы і аб тавараабмене паміж Беларуссю і Украінай.

(Працяг будзе)

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.**

**10. Прыслоўе — працяг.**

Якасныя прыслоўі маюць формы ацэнкі, якія ўтвараюцца пры дапамозе тых самых суфіксаў, што і формы ацэнкі якасных прыметнікаў. Для іх утварэння выкарыстоўваюцца суфіксы з памяншальна-ласкальным значэннем: **-еньк- (-аньк-)**: блізенька, раненька, добранька; **-енечк- (-анечк-)**: памаленечку, ціхенечка; **-утк- (-ютк-)**: ціхутка, ранютка; **-уseньк- (-юсеньк-)**: ціхусенькі, ранюсенька; **-усенечк- (-юсенечк-)**: ціхусенечка, ранюсенечка; з павелічальна-ўзмацняльным значэннем: **-енн- (-энн-)**: здаравенна, страшэнна; **-эзн-**: высачэзна, даўжэзна; **-эразн-**: даўжэразна; і са значэннем непаўнаты якасці: **-ават-**: малавата, пазнавата, цяжкавата.

2. **Прыслоўі спосабу дзеяння** (як?, якім спосабам?): **бягом, вярхом, гуртам, пяшком, навыперадкі, насцеж, па-воўчы, па-дзіцячы, уголас, услед** і г.д.

Прыслоўі спосабу дзеяння абазначаюць, якім чынам адбываецца дзеянне. „Гэтыя прыслоўі блізкія да якасных і часам пераходзяць у іх, але адрозніваюцца ад якасных адценнем спосабу дзеяння; параўн. **гаварыў ціха і гаварыў шэптам, ішоў хутка і рушыў подбегам**“.[1]

3. **Прыслоўі меры і ступені** (у якой меры?, у якой ступені?, як многа?, колькі?): **вельмі, даволі, зусім, мала, многа, надта, трохі, шмат** і г.д.

Прыслоўі меры і ступені выражаюць інтэнсіўнасць дзеяння: **вельмі ўцешыўся, крыху баяўся, шмат прачытаў** або меру ці ступень якасці: **вельмі істотная прычына, даволі далёка, зусім блізка.**

4. **Прыслоўі месца** (дзе?, куды?, адкуль?, дакуль?): **блізка, воддаль, высока, далёка, дзесьці, знізу, наверсе, налева, побач, справа, там, тут, угары, уперад** і г.д.

Прыслоўі месца абазначаюць месца або напрамак дзеяння. Яны паказваюць, дзе дзеянне адбываецца, або куды ці адкуль яно накіравана.

5. **Прыслоўі часу** (калі?, з якога часу?, да якога часу?): **вечарам, вясной, даўно, заўсёды, заўтра, зімой, змалку, зранку, летам, летась, раніцай, сёння, спачатку, спрадвеку, увечары, увосень, удзень, узімку, улетку, уночы, учора, цяпер, штодзень, штогод** і г.д.

Прыслоўі часу абазначаюць, калі адбываецца дзеянне, з якога часу пачынаецца, як доўга працягваецца і ў які час канчаецца.

6. **Прыслоўі прычыны** (чаму?, з якой прычыны?): **завошта, затое, згарача, здуру, навошта, спрасонку, таму, чамусьці** і некаторыя іншыя.

Прыслоўі прычыны абазначаюць, чаму адбываецца дзеянне, з якой прычыны (іх у мове невялікая колькасць).

7. **Прыслоўі мэты** (для чаго?, з якой мэтай?): **знарок, незнарок, назло, напаказ, наперакор, сумыслу** і некаторыя іншыя.

Прыслоўяў мэты вельмі мала. Яны абазначаюць, дзеля чаго, з якой мэтай адбываецца дзеянне.

„Некаторыя прыслоўі з прыстаўкамі падобныя да назоўнікаў, лічэбнікаў і займеннікаў з прыназоўнікамі. Каб адрозніць іх, трэба мець на ўвазе наступнае.

1. Назоўнікі з прыназоўнікамі абазначаюць прадмет, маюць пры сабе паясняльныя словы і выступаюць у сказе дапаўненнем: Машыны з'ехалі **на бок** (чаго?) дарогі. Назоўнік з прыназоўнікам **на бок** адказвае на пытанне **на што?** і з'яўляецца дапаўненнем. Прыслоўі абазначаюць прымету дзеяння ці розных акалічнасці і не маюць паясняльных слоў: Галава ад зморанасці хілілася (куды?) **набок**. Прыслоўе **набок** — акалічнасць месца.

2. Лічэбнікі і займеннікі дапасуюцца да назоўнікаў, змяняюцца па склонах і выступаюць у сказе азначэннем: Дзеці на экскурсію ехалі **ў трох** аўтобусах. Камандзір выйшаў на заданне **з усім** атрадам.

Прыслоўі прымыкаюць да дзеясловаў і не змяняюцца: Партызаны ў разведку пайшлі **ўтрох**. Раніцай **зусім** сціх вецер“.[2]

Да прыслоўяў вельмі блізкія **безасабова-прэдыкатыўныя словы (словы катэгорыі стану).** Яны не абазначаюць прыметы дзеяння ці якасці, а стан каго-небудзь ці чаго-небудзь:

— стан чалавека ці іншай жывой істоты: **весела, добра, крыўдна, лёгка, прыемна, сорамна, сумна, трывожна, цяжка.**

— стан прыроды: **ветрана, зорна, месячна, холадна, цёмна, ціха,**

— стан асяроддзя: **брудна, накурана, прасторна, утульна, цесна, чыста,**

— ацэнку стану: **блізка, далёка, прыгожа, урачыста,**

— неабходнасць, магчымасць: **можна, неабходна, нельга, патрэбна, трэба.**

Ад прыслоўяў безасабова-прэдыкатыўныя словы адрозніваюцца:

— лексічным значэннем,

— граматычнымі значэннямі ладу і часу: **было весела, будзе весела, было б весялей,**

— сінтаксічнай функцыяй. Словы катэгорыі стану выступаюць выказнікамі ў безасобовых сказах: У лесе **было ціха і спакойна.** (К-с), **Добра, спакойна** на душы. (Б.)

Некаторыя словы катэгорыі стану не маюць амонімаў сярод прыслоўяў. Гэта: **боязна, душна, зорна, месячна, млосна, маташна, можна, неабходна, нельга, пара, сорамна, трэба, шкада.**

„... Многія словы катэгорыі стану і многія якасныя прыслоўі з'яўляюцца амонімамі. Аднак на гэтай падставе нельга лічыць, што словы катэгорыі стану ўтварыліся з прыслоўяў, што прыслоўі пераходзяць у катэгорыю стану. Словы катэгорыі стану ўтварыліся і ўтвараюцца ад якасных прыметнікаў і, магчыма, былі пераходнай ступенню ад прыметнікаў да прыслоўяў. І ў сучаснай мове катэгорыя стану бліжэй да прыметнікаў, чым прыслоўі. Нярэдка на аснове прамых значэнняў прыметнікаў развіліся значэнні катэгорыі стану, а на аснове пераносных — значэнні прыслоўяў: **у пакоі цёпла — цёпла віншавалі, стала холадна — холадна сустрэлі**“.[3]

---

[1] А.І. Саладуха, Прыслоўе, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф.М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 190.

[2] Беларуская мова пад рэд. А.М. Клачко, ч. 1, Мінск 1982, с. 292.

[3] А.І. Саладуха, ... с. 204.

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Вельмі шаноўны Астроне!

Стаўлю выклічнік, каб падкрэсліць жах, які я перажыў уначы з 16 на 17 ліпеня 1990 года.

Снілася мне, што я быў вельмі аброслы на ўсім твары, валасы на маёй галаве і на твары былі доўгія, колеру рыжа-сівага. Давай я іх галіць лязом у нейкай благой апраўцы, але не ў машынцы. Лязо было тупое, але я галіўся, хаця балела, бо хацеў мець гладкі твар. Калі я так мучыўся з гэтым, убачыў, што доўгія валасы вылазяць з майго рота. Калі я рот разявіў шырэй, убачыў даўжыню валос і іх рэдкасць, яны густымі не былі. Я іх пачаў вырываць, але ўжо не памятаю, як гэта ўсё скончылася...

Дарагі Астроне, адкажы, калі ласка, што гэта за такі сон!

З глыбокай пашанай
**твой Вася.**

Ой, Вася, Вася! Глядзі, каб ты не захліснуўся ад багацця! Доўгія, прыгожыя валасы абазначаюць для цябе нейкі поспех, здабыццё багацця. Але ж твае валасы былі нецікавыя: спачатку рыжа-сівыя і ты ніяк не мог агаліцца, табе балела і лязо было тупое. А пасля ты ўбачыў, што валасы вылазяць з твайго рота... Спадзявайся нейкіх непрыемнасцей (звязаных, бадай, з маёмасцю), а мо нават і нейкай хваробы.

**Астрон**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, я якраз закончыла чацверты курс універсітэта і застаўся мне да канца вучобы ўсяго адзін год. Калі я пасля сярэдняй школы марыла пра сваю будучыню, дык уяўляла сабе ўсё ў вельмі ружовых колерах. Мне здавалася, што жыццё студэнтаў гэта нешта найцудоўнейшае, што толькі можа чалавек перажыць. Сёння, аднак, я гляджу на гэту справу цалкам інакш.

А ўсё распачалося зусім добра. На першым курсе ўсе знаёміліся, пачалі хадзіць на дыскатэкі, на каву ў студэнцкі клуб. А пасля заканчэння першага курса мяне ўзялі ў спартыўны лагер, які знаходзіўся над прыгожым возерам. Я паехала туды з вялікай радасцю і надзеяй, што будзе там шмат прыгожых хлопцаў. Аднак жа прыглянуўся мне там не малады хлопец, а адзін з маіх выкладчыкаў, які апекаваўся нашай групай. Фактычна дык гэта я яму прыглянулася. Там жа, у гэтым лагеры, я апынулася з ім у пасцелі і быў гэта мой першы мужчына.

Не скажу, каб я была занадта вясёлая, калі вярнулася дахаты, бо ведала, што ў чалавека гэтага ёсць жонка і дзіця. Была ўсё ж шчаслівая. Ад таго часу мы пачалі сустракацца рэгулярна. Быў, нягледзячы на свае даволі ўжо сталыя гады, мужчынам прыгожым і надзвычай добра збудаваным. Быў у адносінах да мяне вельмі ласкавы і клапатлівы. Ніколі, аднак, не даходзіла ў нас да размоў наконт яго разводу з жонкай. Я пачала нервавацца, разумела, што час уцякае, гады ляцяць, а я? Яшчэ крыху і застануся старой дзеўкай. Я была настолькі загледжана ў яго, што не падабаўся мне ніводзін хлопец, якіх навокал было поўна і якія наперабой хацелі б са мной хадзіць. Бацькі мае, зразумеўшы, у якой я апынулася сітуацыі, падыйшлі да мяне з вялікім зразуменнем. Пра нішто яны не пыталіся, а нават купілі мне ўласную кватэру. Аднак жа ён прыходзіў, бавіўся са мной і адыходзіў дахаты. Калі я была на трэцім курсе, нешта нават крыху кранулася. Ён наракаў на сваю жонку, што яна яму здраджвае, што ходзіць куды хоча адна, затрымліваецца ў мяне амаль да раніцы. І я ўжо была амаль упэўнена, што вось настаў час нашага яднання на ўсё жыццё.

Пару тыдняў таму назад, калі мы дагаварыліся сустрэцца ў мяне і ён не прыйшоў, я выйшла ў горад. І што я ўбачыла ў адным шумным натоўпе? Мой каханы вёў пад руку сваю жонку, беражліва падтрымліваючы яе. У жонкі быў вялікі жывот і было відаць, што спадзявалася яна дзіцяці. Ува мне ўсё так і замерла, пахаладзела і ўсе мае надзеі лопнулі ўмомант як мыльны пузыр. Скажы, Сэрцайка, што мне рабіць?

**Таня**

Таня! А што яму перашкаджала мець і жонку і цябе, маладую дзяўчыну, калі ты гадзілася на існуючы стан рэчаў?! А ты яго кахала тым больш гарачым каханнем, бо не была цалкам упэўнена, ці твой ён, ці не зусім. Быў гэта чалавек вопытны і ў нейкай ступені недасягальны для цябе, а гэта маніла цябе найбольш. Аднак жа на ўсё прыходзіць час расплаты. Высветлілася, што твой каханы быў добрым іграком, калі з такой чуллівасцю вёў сваю цяжарную жонку па вуліцах горада. Ёсць у цябе яшчэ адзін шанц, адна слабенькая надзея. Пастарайся разведаць, ці часам дзіцятка гэтае не змайстраваў тваёй саперніцы нейкі сапернік твайго каханка. Такое, аднак, давесці будзе даволі цяжка. Ды і навошта табе гэта?

**Сэрцайка**




## САЛАТА З БУРАКОЎ

На 70 дэкаў буракоў трэба ўзяць 3/4 шклянкі малака, паўлыжкі шмальцу ці масла, паўлыжкі мукі, 1 яблык, лімонны сок, соль, цукар, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі ці цыбулькі.

Невялікія, аднолькавай велічыні буракі дакладна памыць, заліць кіпячай вадой, зварыць на працягу паўтары гадзіны. Звараныя буракі астудзіць, абабраць, спаласнуць і сцерці на бурачанай тарцы. Палажыць у каструльку, дадаць сцертыя яблыкі, тлушч, пасыпаць крыху мукою, закіпяціць. Заправіць па смаку лімонным сокам, цукрам і соллю. Перад падачай перамяшаць з пасечанай зелянінай.

## ТУШАНАЯ ЦЫБУЛЯ

На 60 дэкаў цыбулі трэба ўзяць 1 лыжку шмальцу, соль, перац, 1/3 шклянкі смятаны (можна дадаць яшчэ 2—3 лыжкі таматнага канцэнтрату), 2 лыжкі пасечанага ўкропу або зялёнай пятрушкі.

Цыбулю абабраць, спаласнуць, нарэзаць скрылёчкамі, кінуць на разагрэты тлушч і хвілінку смажыць, памешваючы. Тады спырснуць гарачай вадой і стушыць цыбулю. Дадаць смятану, заправіць па смаку соллю і перцам. Калі хто любіць вострыя стравы, дык у канцы тушэння можна яшчэ дадаць таматную пасту або нарэзаныя памідоры. Вылажаную на талерку страву пасыпаць зелянінай.

## АГУРКІ, ТУШАНЫЯ З ПАМІДОРАМІ

На 75 дэкаў агуркоў трэба ўзяць 25 дэкаў цыбулі, 5 дэкаў алею або масла, 3/4 шклянкі смятаны, 1 лыжку мукі, 2 лыжкі таматнай пасты, соль, перац, цукар па смаку, 4 лыжкі пасечаных лісткоў зялёнай пятрушкі, укропу і зялёнай цыбулькі.

Агуркі памыць, абабраць, нарэзаць скрылёчкамі. Цыбулю абабраць, спаласнуць, дробна пасячы і стушыць на алеі. Тады дадаць у цыбулю нарэзаныя агуркі, пасыпаць соллю і перцам. Тушыць некалькі мінут пад пакрыўкай, а калі агуркі будуць мяккія, пасыпаць іх крыху мукою, перамяшаць, дадаць таматную пасту або свежыя памідоры. Закіпяціць, перамяшаць са смятанай. Заправіць па смаку соллю, перцам і цукрам. Гатовую страву вылажыць на талерку, пасыпаць пасечанымі зялёнымі прыправамі. Гэтую салату можна есці гарачай і халоднай з мяснымі, рыбнымі і гароднiннымі стравамі.

**Гаспадыня**

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Вера Вярба

### ДОЖДЖЫК

Дожджык мые, палівае,
Дожджык песеньку спявае:
„Хто не любіць летні дождж,
Той не ходзіць басаною!"

Мы з бабуляй вельмі рады:
Цёплы дождж напоіць грады,
Кожны кусцік, і лясок,
І жытнёвы каласок.

Трэба ўсім дажджу напіцца,
Каб цвісці і каласіцца.
Дожджык, дожджык, палівай —
Будзе ўвосень ураджай!

Адышла за вёску хмарка,
Сонца выбліснула ярка,
Вольна дыхаюць палі...
Колькі шчасця на зямлі!

### РЫБАКІ

Летні поўдзень. Ля ракі
Мы сядзім — два рыбакі.
Я з ілба сціраю пот,
Вочы мружыць Васька-кот.

Мы для плотак, шчупакоў
Накапалі чарвякоў,
Вудзім рыбу ад відна, —
Хоць бы клюнула адна!

Вінаваты Васька-кот,
Бо на сонцы грэў жывот,
Вуркатаў ля рэчкі ён
І нагнаў на рыбу сон.




*Эліза Каменская з Беластока — удзельніца конкурсу беларускай песні для школьнікаў. Фота Я. Чэрнякевіч.*

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Зоя Гусева

### МОСЦІК

Прыйшлі малышы-мурашы ў госці да дзеда і адразу просяць:

— Дзеду, казку раскажы, пагуляй з намі.

А дзед маўчыць, малатком стукае — мосцік цераз ручай наладжвае.

Сваволяць малышы-мурашы, з каменьчыка на каменьчык скачуць, памагаць дзеду не хочуць.

— Навошта той мосцік? — здзіўляюцца. — Глядзі, дзед: з каменьчыка на каменьчык — і на тым беражку!

Прыпаўзла сараканожка-басаножка, сорак ножак без панчошак. Паслізнулася на мокрым каменьчыку і ўпала.

Проста ў ваду!

Ледзь на бераг выбралася, хоць і мае сорак ножак.

Прыляцела страказа-модніца, Села на мокры каменьчык, паслізнулася і ўпала.

Проста ў ваду!

На бераг выплыла мокрая, жалю вартая.

Прытупаў жучок — чорны бачок. Узлез на мокры каменьчык, паслізнуўся і ўпаў.

Проста ў ваду.

Ледзь малышы-мурашы выратавалі яго, небараку.

Кепскія справы: выходзіць, нельга без мосціка.

І малышы-мурашы да дзеда пабеглі, пачалі яму памагаць.

„Тук, тук, тук! — чуваць стук. — Каб у вадзе ножак не мачылі, каб па мосціку ў госці хадзілі — пернікі нам насілі".

Георгій Юдзін

### ПРА ПАВУЧКА

На беразе сажалкі жыў павучок. Больш за ўсё на свеце баяўся ён мух.

Жукі, матылькі, мухі пасміхаліся з яго, а браты, старэйшыя павучкі, называлі гультаём.

— Трэба даказаць, што я не гультай, — вырашыў павучок.

Ноччу ён пафарбаваў усё павуцінне ў садзе.

— Вось будуць радыя браты, — цешыўся павучок. — Гэта ж так прыгожа — чырвонае павуціннe!

Але цешыўся ён дарэмна. Раніцай прачнуўся і ўбачыў, як старэйшыя павукі сярдзіта адмываюць сваё павуціннe. Мухі адразу заўважылі чырвоны колер, і ні адна не трапіла ў сіло.

Павучок так спалохаўся сваіх братоў, што збег далёка-далёка. І сёння ніхто не ведае, дзе ён жыве.



Фота В. Жушмы.




**(Беларуская народная казка)**

Жылі дзед і баба. Дзед у лес хадзіў дровы секчы, а баба дома была, пірагі пякла.

Аднаго разу злавіў дзед у лесе дзікага парсючка і прынёс дахаты. Харошы быў парсючок — стракаценькі ды паласаценькі.

Пачала баба парсючка карміць — і цестам, і мукою, і свежаю травою.

Але, вядома, дзік — яму жалудоў давай! Цягне яго ў лес — па жалуды.

Нічога не зробіш, пачала яго баба ў лес пускаць, жалуды збіраць.

Цэлы дзень ён у лесе гуляе, а надвечар дахаты бяжыць. Такі добры парсючок быў!

Аднойчы бяжыць ён у лес, а насустрач яму галодны воўк.

— Парсючок-парсючок, дзікдзічок, — кажа воўк, — я цябе з'ем.

Парсючок хітры быў, падумаў ён і адказвае:

— Не еш мяне, шэры воўк, лепш ідзі са мною на жалудовую палянку: там чарада гусей пасецца.

А воўк да гусей вельмі ахвочы. Паверыў ён дзічку-парсючку і пайшоў за ім на жалудовую палянку.

На дарозе была вялікая воўчая яма. Парсючок яе ведаў, ды і абышоў, а воўк — бух у яму! І сядзіць там.

Назаўтра парсючок зноў пайшоў на жалудовую палянку.

Ідзе ды ідзе, сустракае яго лісіца:

— Куды ідзеш, парсючок?
— Па жалуды.
— Вазьмі мяне з сабою.
— Хадзем.

Ідуць яны, ідуць, падышлі да ямы. Парсючок абышоў яму, а лісіца — бух ваўку на галаву!

На трэці дзень сустракае парсючка заяц:

— Куды ідзеш, парсючок?
— Па жалуды.
— Вазьмі і мяне з сабою.
— Хадзем.

Дайшлі да ямы — і заяц туды паляцеў. Стала іх цяпер у яме трое: воўк, лісіца і заяц.

Сядзяць яны ў яме, захацелі есці. Лісіца кажа:

— Давайце крычаць: хто слабей крыкне, таго з'ядзім.

Крыкнуў воўк — моцна.

Крыкнула лісіца — таксама не надта слаба.

Крыкнуў заяц — зусім слаба: толькі піскнуў.

Ну, яго і з'елі. Воўк усе косці паеў, а лісіца кішкі сабе ўзяла і ў пясок закапала.

Назаўтра зноў прагаладаліся. Лісіца дастала кішкі ды есць патроху.

— Што гэта ты, кума, ясі? — пытаецца ў лісіцы воўк.

— Кішкі.
— Дзе ты іх узяла?
— Лапаю сабе жывот распарола і дастала.

Воўк паверыў, распароў сабе кіпцюрамі жывот ды і скапаў. Лісіца і яго з'ела.

Прыляцеў да ямы дрозд. Лісіца просіцца ў яго:

— Драздзік-драздок, вызвалі мяне з ямы!
— Як жа я цябе вызвалю?
— Накідай у яму галля, я і вылезу.

Дрозд накідаў галля. Лісіца вылезла з ямы і кажа:

— Драздзік-драздок, вызваліў ты мяне?

(Працяг на стар. 10)




(Працяг са стар. 9)

— Вызваліў.
— Накармі ж цяпер мяне.
— Як жа я цябе накармлю?
— Вунь баба на поле ідзе, міску бліноў нясе. Ты заляці ёй наперад ды сядзь на дарозе.
— І ўсё?
— Усё.

Паляцеў дрозд і сеў пасярод дарогі. Баба ўбачыла дразда, паставіла міску з блінамі і кінулася яго лавіць. А лісіца схапіла бліны ды і за кусты.

Наелася лісіца бліноў, прыйшла к дразду:

— Дроздзік-драздок, вызваліў ты мяне?
— Вызваліў.
— Накарміў?
— Накарміў.
— Цяпер напаі.
— Як жа я цябе напаю?
— А вунь, бачыш, чалавек бочку з півам вязе. Ты ўзляці ды давай дзяўбсці затычку.
— І ўсё?
— Усё.

Паляцеў дрозд, сеў на бочку ды давай дзяўбсці затычку.

Убачыў гэта фурман, схапіў кол. Дрозд узляцеў угору, а фурман з усяе сілы трах па бочцы!

Бочка разбілася, піва вылілася. Цэлая лужына налілася.

Паехаў чалавек, бядуючы, далей, а лісіца напілася піва з лужыны, колькі ёй хацелася, ды зноў пабегла да дразда:

— Дроздзік-драздок, вызваліў ты мяне?
— Вызваліў.
— Накарміў?
— Накарміў.
— Напаіў?
— Напаіў.
— Цяпер пацеш ты мяне.
— Як жа я цябе пацешу?
— А вунь на таку дзед з бабаю гарох малоцяць. Ляці туды і садзіся на лоб то бабе, то дзеду.
— І ўсё?
— Усё.

Паляцеў дрозд на ток, сеў бабе на лоб. Убачыў дзед дразда ды — трах цэпам! Але не па драздзу, а па бабіным ілбе. Дрозд фыркнуў і пераеў на дзедаў лоб. Тады баба з крыкам: „Акыш!“ — бах цэпам дзеду ў лоб!..

Лісіца аж качаецца са смеху, пазіраючы, як дзед малоціць бабін лоб, а баба — дзедаў.

Набілі яны сабе гузакоў, кінулі малацьбу ды пайшлі дахаты прымочкі на лбы ставіць.

А драздзу хоць бы што — паляцеў сабе ў лес, пасвістваючы.

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-



*Паглядзі ўважліва на карцінку, размалюй яе каляровымі алоўкамі, а потым складзі па ёй апавяданне. Карцінку разам з апавяданнем прышлі ў рэдакцыю. За найпрыгажэйшыя малюнкі і найлепшыя апавяданні — кніжныя ўзнагароды.*




### БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР
**(У 500-годдзе з дня нараджэння)**

**— 4 —**

Задоўга рыхтаваліся да кірмашу полацкія купцы і рамеснікі. Даўно ўжо ляжалі назапашаныя воск, мёд, попел, дзёгаць, смала-жывіца, лён, каноплі... Якіх толькі футраў і скур не выстаўлялі тут навакольныя лясы! Бабровыя, барсучыныя, вавёрчыныя, воўчыя, выдрыныя, заечыя, казуліныя, куніцавыя, ласіныя, лісіныя, мядзвежыя, сарнавыя...

Якога толькі посуду не рабілі полацкія ганчары — місы, талеркі, збаны, глякі, гаршкі, цёрлы, макотры, гладышы, гарлачы, хлебніцы, кубкі, сальніцы...

А якая была тут бандарка — судзіны, кадзі, бочкі, кублы, дуплянкі, вёдры, вадзянкі, дзежкі, цэбры, памыйніцы, балеі, даёнкі, меркі, шаснасткі, гарцы...

Якіх толькі рэчаў не паказвалі полацкія кавалі і ювеліры — кованых, чаканеных, вылітых, ціснёных, штампаваных... Ад сашнікоў, кос, складных сярпоў да завушніц, пярсцёнкаў, бранзалетаў...

Амаль ніводнага кірмашу не абыходзілася без свары, крыку, калатнечы з-за таго, што нехта некаму не дадаў, недасыпаў, недаліў або хтосьці каго там аблічыў, абважыў, абмераў. Купец-немец, прадаючы сукно, часам называў большую даўжыню, чым мелася ў скрутку. Або селядцы ў бочцы — зверху глянуць адна любата, а ўнізе — гнілля і драбяза...

Ды і полацкія купцы не ўсе былі чыстыя на руку.

Ведаючы гэта, рыжкі купец доўга выстуквае круглыя кавалкі воску або нават праколвае іх.

На воск асаблівы попыт, бо гэта свечкі, а таму яго надзвычай шмат закупляюць касцёлы. Немцы з немалым прыбыткам перапрадаюць пасля полацкі воск усёй Заходняй Еўропе.

Матэрыял лёгкі, не псуецца і заўсёды усім патрэбны — воск быў нават своеасаблівымі грашыма Полацка.

Не хочучы мець ніякіх нараканняў на якасць воску, гарадскія ўлады зрабілі тапільную печ і пачалі ўвесь ягоператопліваць і штэмпляваць.

Францішак любіў глядзець на гэтыя адціснутыя ў воску знакі. Яго наогул вабілі ўсе надпісы. У іх заўсёды было штосьці таямнічае.

У ваколіцах Полацка з незапомных часоў ляжалі камяні з высечанымі на іх шасціканцовымі крыжамі і словамі: „Г/оспод/и помози рабу своему Борису“.

Пра гэтыя камяні хадзілі розныя погаласкі. Казалі, быццам даўнейшы полацкі князь Барыс у часе голаду выбіў гэтыя крыжы, просячы ў бога хлеба. І нібы на гэтых камянях раніцаю можна знайсці свежы бохан.

Маладому Францішку хацелася гэта праверыць. Вось каб у палачан, думалася яму, было, нарэшце шмат-шмат свайго хлеба.. Не трэба бўдзе тады купляць прывазнога...

Раненька ўстаў Францішак і, каб ніхто не ўбачыў, вымкнуў за гарадскія вароты, босы пабег па пякучай расе. І вось ужо бачыць: сапраўды, вунь яна — шэрая скарынка хлеба. Падбег, разгарачаны... Не, звычайны камень. Колькі ні прыбягаў пасля — ніколі на камянях боханаў не было.

**Працяг будзе**
**(З кнігі А. Клышкі „Францыск Скарына“)**

## Вершы Віктара Шведа

### МОРКАЎКА, СЫНОК, ПАПРАЎЛЯЕ ЗРОК

**Матулю добрую пытае**
**З цікаўнасці сынок:**
**— Скажы папраўдзе, папраўляе**
**Моркаўка нам зрок?**

**— Павінна ж быць дзіцяці марай**
**Каб з'есці морквы кус.**
**Ці ж бачыў, каб у акулярах**
**Хадзіў хоць адзін трус?**

### СКАЖЫЦЕ, ДЗЕЦІ, З ЧАГО РОБЯЦЬ СЕЦІ?

**Настаўнік пытае:**
**— Скажыце мне, дзеці,**
**З чаго вырабляюць**
**Рыбацкія сеці?**

**Настаўніку Міка**
**Адказвае шчыра:**
**— З вялікага ліку**
**Малюсенькіх дзірак.**

### МАШЫНА НА ШНУРОК

**З хаты на двор выходзіць**
**Пазабаўляцца сын.**
**— Скажы: твой самаходзік**
**На ток ці на бензін?**

**Праз нейкую хвіліну**
**Адказвае сынок:**
**— Мая аўтамашына,**
**Матуля, на шнурок.**

### ПАДКЛЮЧЫСЯ ПАД ТОК

**— Пазабаўляйся ты са мною,**
**Калі зварыла ўжо абед.**
**— Сынок, пакінь мяне ў спакою,**
**Энергіі прапаў і след.**

**— Калі ты змучана такая, —**
**Сказаў на гэтае сынок, —**
**Дык я табе, матуля, раю,**
**Каб падключылася пад ток.**

### УСЁ ДОБРАЕ

**Настаўнік запытаў Сярожу:**
**— Вось даведацца цікава,**
**Што ты расказаць нам можаш**
**Пра Ягайлу Уладзіслава?**

**— Што сказаць тут без абману,**
**Каб не выйшла па-дурному?**
**Адказаў ён нечакана:**
**— Усё добрае, вядома.**

### ПАСЛЯ КАНІКУЛ

**— Міхаська мілы, будзь здароў!**
**Шчаслівы, што цябе зноў бачу.**
**Як ты канікулы правёў?**
**Ці адпачыў, ці меў удачы?**

**— Два тыдні ў горах быў, Андрэй,**
**Хадзіў па горных пуцявінах.**
**— А дзе, скажы, ты быў пазней?**
**— Пазней у гіпсе быў няспынна.**


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.

# TV TELEWIZJA WARSZAWA

**PIĄTEK 3 VIII 1990 r.**

**PROGRAM I**

7.40 „Express gospodarczy"
8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie — Telelato
9.40 Kino Teleferii: „Tajemniczy duch" — serial NRD
10.10 „Było nas sześcioro" (2) — serial czechosł.
16.45 Program dnia
16.50 „Piłkarska kadra czeka"
17.15 Teleexpress
17.30 „Raport" — przegląd wydarzeń międzynarodowych
18.00 10 minut
18.15 „Dynastia" — serial USA
18.45 „10 minut"
19.00 Kino Teleferii: „Synowie Różowej Pantery"
19.30 Wiadomości
20.05 „Stracony weekend" — film fab. USA
21.45 Kwadrans prawdy —Aleksander Mackiewicz
22.00 „W kinie i na kasecie"
22.20 „Haich Life" — program rozrywkowy
23.05 Wiadomości wieczorne
23.20 „Dynastia" — serial USA (powt.)

**PROGRAM II**

7.55—11.00 Telewizja śniadaniowa:
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa" — program dla dzieci
9.10 „Santa Barbara" — serial USA
10.00 CNN — Headline News (wersja oryg.)
10.15 Magazyn TV śniadaniowej
14.50 Powitanie
15.00 Drohiczyn — reportaż.
15.40 „Express gospodarczy"
16.00 „Zwierzęta wokół nas"
16.30 Wzrockowa lista przebojów Marka Niedźwieckiego
17.00 „Alternatywy 4" (odc. 5) — serial TP
18.00—21.30 Program regionalny
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Crime story" (5) — serial USA
22.55 „Fason" — program o modzie
23.45 Komentarz dnia

**SOBOTA 4 VIII 1990 r.**

**PROGRAM I**

7.25 Zajęcia wakacyjne: Technologia produkcji rzepaku
8.10 „Tydzień na działce"
8.40 „Na zdrowie" — program rekreacyjny
9.00 „Ziarno" — program Redakcji Katolickiej dla dzieci i rodziców
9.20 Kino Teleferii: „Partnerzy" (9, 10) — serial USA
10.10 Sobota na działce, cz. 1
10.30 Wiadomości poranne
10.40 „Za każdy kamień twój" — program dok.
11.05 Sobota na działce, cz. 2
11.35 Telewizyjny koncert życzeń
12.05 „Siódemka" w Jedynce — francuski program satelitarny przedstawia
13.50 Jednorożec dla Ciebie — w pracowni Marii Anto
14.05 „Wędrówki dalekie i bliskie": „Cari fiesta" cz. 1 — film UNESCO
14.45 „Nad Niemnem, Piną i Prypecią" — „W Bogdanowie"
15.10 „Żyć" — magazyn ekologiczny
15.35 „Flesz" — magazyn muzyczny
16.05 „Profesor i gołębie" — film dok.
16.35 „Rewizja nadzwyczajna"
17.05 „Mity filmowej pop-kultury"
17.15 Teleexpress
17.30 Telewizyjna Giełda Piosenki
18.30 „Butik"
19.00 Dobranoc
19.10 „Z kamerą wśród zwierząt"
19.30 Wiadomości
20.05 „Mity filmowej pop-kultury": „Billy" — film USA
21.45 „7 dni — świat"
22.15 Studio Sport
23.00 „Piknik Country" — Mrągowo '90
23.45 „Życie jest fraszką"
23.55 Telegazeta
0.05 „Ośmiornica" (4) — serial sensac. prod. włoskiej

**PROGRAM II**

7.55—11.00 Telewizja śniadaniowa:
8.00 Panorama dnia
8.15 Kino rodzinne
9.00 Magazyn TV śniadaniowej (w tym „Benny Hill")
10.00 CNN — Headline News (wersja oryg.)
10.15 Magazyn TV śniadaniowej
10.30 „Cudowne lata" (5) — serial USA
11.00 „Czas akademicki"
11.30 „Stradivari", cz. 2 — włoski film fab.
13.00 „Bariery"
13.20 „Kontakt TV" — W kontakcie z przygodą
14.20 Wielki sport
14.55 „Odeon" na antenie „2"
15.30 „Santa Barbara" — serial USA (powt.)
17.00 STS — Wieczór wspomnień (2)
18.00 Program lokalny
18.30 „Benny Hill" — program rozrywkowy
19.00 Studio Sport
20.00 Muzyczny telemost: Warszawa—Moskwa
20.50 „Szpital Dobrej Woli" — reportaż
21.15 „Dwa+2" — „Wydawcy"
21.30 Panorama dnia
21.45 „Stradivari" (2) — włoski film fab.
23.05 Komentarz dnia

**NIEDZIELA 5 VIII 1990 r.**

**PROGRAM I**

7.00 Witamy o siódmej
7.30 „Kraj za miastem"
7.55 „Po gospodarsku"
8.10 „Od niedzieli do niedzieli"
8.55 Program dnia
9.00 Kino Teleferii: „Bezcenna kaczka" — film fab. USA
10.30 Telegazeta
10.35 „Otwarte wrota Amazonii": „Łowcy diamentów" — film dokum.
11.05 „Notowania, czyli co się opłaca rolnikowi"
11.30 Telewizyjny koncert życzeń
12.15 „Pełnia" — film dokum.
13.30 „Pororintan — dziewczyna znad jeziora Poro-Poro" (przeniesienie z Operetki Warszawskiej musicalu w wykonaniu Sapporo Childern's Musical Group z Japonii)
14.15 „Morze" — magazyn
14.35 „Myśl z okienka"
14.50 Antena
15.15 Studio Sport
16.15 „Powrót Arsena Lupin" (9) — serial francuski
17.15 Teleexpress
17.30 Teatr TV — Duety: A. Fredro — „Świeczka zgasła"
18.05 „Piknik Country" — Mrągowo '90
19.00 Kino Teleferii: „Synowie Różowej Pantery"
19.30 Wiadomości
20.05 „Być najlepszą" (4) — serial USA
21.25 „Lewar" — film dokum.
22.00 Wiadomości wieczorne
22.15 Sportowa Niedziela

**PROGRAM II**

7.45 Wojskowy magazyn public.
8.15 „Przegląd tygodnia" (dla niesłyszących)
8.50 Film dla niesłyszących: „Być najlepszą" (4) — serial USA
10.00 Program lokalny
10.30 „Jutro poniedziałek"
10.50 Powitanie
11.00 „Płonące pola" (10) — serial austral.
12.00 Polska Kronika Filmowa
12.10 „Santa Barbara" — serial USA (19, 20 — powt.)
13.40 100 pytań do...
14.20 Maciej Niesiołowski — Z batutą i z humorem
14.40 Kino familijne: „Cudowne lata" (5) — serial USA
15.05 „Kontakt TV" — Archiwum Kontaktu — „Czapski"
16.15 „Musicale, musicale!" — program rozrywkowy
16.50 Studio Sport
17.30 „Bliżej świata — przegląd tv satelitarnych
19.00 „Wydarzenie tygodnia"
19.30 „Kobiety 20-lecia" — Kazimiera Iłłakowiczówna
20.00 Studio Sport
21.30 Panorama dnia
21.45 „Płonące pola" (10) — serial austral.
22.45 „Rozmowy bez sekretów" — Oprah Winfrey Show
23.35 Komentarz dnia
23.40 „Akademia wiersza"

**PONIEDZIAŁEK 6 VIII 1990 r.**

**PROGRAM I**

17.10 Program dnia
17.15 Teleexpress
17.30 „Rzeczpospolita samorządna"
18.00 „Dynastia" — serial USA
18.45 „10 minut"
19.00 Kino Teleferii: „Synowie Różowej Pantery"
19.30 Wiadomości
20.05 Teatr TV — Spektakl na bis: M. Erdman — „Mandat"
21.50 „Kontrapunkt" — przegląd wydarzeń krajowych
22.20 Telewizyjny Informator Wydawniczy
22.35 „Piknik Country" — Mrągowo '90
23.05 Wiadomości wieczorne
23.20 „Dynastia" — serial USA (powt.)

**PROGRAM II**

15.00 Powitanie
15.30 „Capital City" (6) — serial ang.
16.30 Publicystyka
16.45 „Ojczyzna-polszczyzna": Język Powstania Warszawskiego
17.00 Kino rodzinne
18.00 Program lokalny
18.30 Przegląd PKF
19.00 „Bagdad Cafe" (5) — serial USA
19.30 „Międzyzdroje po raz 25-ty" — reportaż
20.00 „Auto-Moto Fan Klub"
20.30 „Minęło pół wieku" — reportaż
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Capital City" (6) — serial ang.
22.45 Komentarz dnia

**WTOREK 7 VIII 1990 r.**

**PROGRAM I**

8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie: Tęczowy Music-Box
9.40 Kino Teleferii: „Tajemnicza wyspa" (7) — serial czechosł.
10.10 „Wicher czasów" (5) — serial brazyl.
17.10 Program dnia
17.15 Teleexpress
17.30 „Gorące linie"
18.00 „Dynastia" — serial USA
18.45 „10 minut"
19.00 Kino Teleferii: „Synowie Różowej Pantery"
19.30 Wiadomości
20.00 Spotkanie z ministrem Jackiem Kuroniem
20.15 „Wicher czasów" (5) — serial brazyl.
21.10 „Teraz" — tygodnik gospodarczy
21.40 „Telewizja z podziemia"
22.40 Wiadomości wieczorne
22.55 „Dynastia" — serial USA (powt.)

**PROGRAM II**

7.55—11.00 Telewizja śniadaniowa:
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa" — program dla dzieci
9.10 „Santa Barbara" (21) — serial USA
10.00 CNN — Headline News (wersja oryg.)
10.15 Magazyn TV śniadaniowej
15.00 Powitanie
15.10 „Dookoła świata" — „Dwa dni na Majorce"
15.40 Studio aktywnej TV
16.00 „Kontakt TV" — W kontakcie ze światem
17.00 „Historia Hollywoodu" (5) — serial dok. USA
18.00 Program lokalny
18.30 Modlitwa wieczorna w kopalni soli w Bochni
19.00 „Poczmistrz" — nowela filmowa TP
19.30 „Klejnoty kultury"
20.00 Przeboje Bogusława Kaczyńskiego
21.00 Wywiady Ireny Dziedzic
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „Travelling avant" — francuski film fab.
23.45 Komentarz dnia

**ŚRODA 8 VIII 1990 r.**

**PROGRAM I**

7.40 „Express gospodarczy"
8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Teleferie — Altanka
9.40 Kino Teleferii: „Zagubiona melodia" (7-ost.) — serial czechosł.
10.10 „Błyskawica" — węg. film fab.
17.10 Program dnia
17.15 Teleexpress
17.30 „Sensacje XX wieku"
18.00 „Dynastia" — serial USA
18.45 „Rolnicze rozmaitości"
19.00 Kino Teleferii: „Synowie Różowej Pantery"
19.30 Wiadomości
20.05 „Niedzielny obiad" — jugosł. film fab.
21.30 „Plus-minus"
21.50 „Podróż Edmunda Zajdla" — film dokum.
22.25 Wiadomości wieczorne
22.40 „Kinomania"
23.15 „Dynastia" — serial USA (powt.)

**PROGRAM II**

7.55—11.00 Telewizja śniadaniowa:
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa" — program dla dzieci
9.10 „Santa Barbara" — serial USA
10.00 CNN — Headline News (wersja oryg.)
10.15 Magazyn TV śniadaniowej
15.00 Powitanie
15.30 „Express gospodarczy"
16.00 „Kontakt TV" — W kontakcie z gwiazdami
17.00 „Szpital na peryferiach" (6) — serial czechosł.
18.00 Program lokalny
18.30 „Magazyn 102"
19.00 „Kiedy odszedł Henry" (6) — serial ang.
19.30 „Galeria 37 milionów"
20.00 „Siódemka" w „Dwójce" — francuski program satelitarny przedstawia
21.00 „Ze wszystkich stron" — reportaż
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 „W labiryncie" — serial TP
22.25 „Telewizja nocą"
23.10 Komentarz dnia

**CZWARTEK 9 VIII 1990 r.**

**PROGRAM I**

8.00 „Dzień dobry"
9.00 Wiadomości poranne
9.10 Kino Teleferii: „Kłusownik" (1) — serial TP
10.10 „Dwójka karo" (10) — serial USA
17.10 Program dnia
17.15 Teleexpress
17.30 Magazyn katolicki
18.00 „Dynastia" — serial USA
18.45 „10 minut"
19.00 Kino Teleferii: „Synowie Różowej Pantery"
19.30 Wiadomości
20.05 „Dwójka karo" (10) — serial USA
21.00 „Interpelacje"
22.00 „Pegaz"
22.45 Wiadomości wieczorne
23.00 „Dynastia" — serial USA (powt.)

**PROGRAM II**

7.55—11.00 Telewizja śniadaniowa:
8.00 Panorama dnia
8.10 „Ulica Sezamkowa" — program dla dzieci
9.10 „Santa Barbara" (23) — serial USA
10.00 CNN — Headline News (wersja oryg.)
10.15 Magazyn TV śniadaniowej
15.00 Powitanie
15.30 „Tęsknota za białą drogą" — bułg. film fab.
17.00 Spotkanie z Anatolijem Kaszpirowskim
18.00 Program lokalny
18.30 Teatr Muzyczny w Gdyni, cz. IV — Wokół musicalu
19.00 „W labiryncie" — serial TP (powt.)
19.30 Buszkow w Parku Łazienkowskim — recital skrzypcowy
20.00 Wielki tenis — Roland Garros 90
21.00 „Express reporterów"
21.30 Panorama dnia
21.45 Sport
21.55 Studio Teatralne „Dwójki": Ken Kughes — „Sammy"
23.05 Spotkanie z ks. prof. Józefem Tischnerem
23.20 Komentarz dnia

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Аб „Басовішчы" — фестывалі музыкі беларускай моладзі ✸ Беларусы — каты ці вешальнікі? ✸ Нью-йоркская скарынаўская бібліяграфія ✸ Фотарэпартаж з белавежскага Купалля ✸ Пахаванне ў Грабарцы ✸ Як ахоўваць цэрквы? ✸ Ліст з Англіі ✸ Кніжкі для Бельскага ліцэя ✸ Дзеці са страшнай зоны ✸ Парады і гумар.**

**СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ**

# СПАТКАННЕ

*Словы А. Лягчылава*
*Музыка І. Лучанка*

Як бярозак галінкі цішыня спавіла,
На спатканне дзяўчына да каханага йшла.
І, відаць, гарманіста пакахала яна,
Бо гармонь галасісты праспяваў давідна.

Прыпеў: Белая, белая, русая, русая
Зорка на кроплі гаючай вады.
Казка і песня мая беларуская
Самай чароўнай красы.

Усміхнуцца сяброўкі хітра, весела ёй,
А яна ні паўслова пра каханне сваё.
А закат вечаровы зноў патушыць агонь,
І сваёй чарнабровай заспявае гармонь.

Прыпеў.

Як бярозак галінкі цішыня спавіла,
На спатканне дзяўчына да каханага йшла,
І, відаць, гарманіста пакахала яна,
Бо гармонь галасісты будзе пець давідна.

УМЕРАНА, ЛІРЫЧНА

# НІЎКА

— Толькі прашу не нішчыць мне татуіроўку.

## Спаторнасць непаторнага

690
Малады чалавек прападае тады, калі пачынае маліцца старому ідалу.

691
Жыць сыта — марыў Колас, жыць прыгожа — марыў Багдановіч.

692
Польшчу можа выратаваць Бог пазітывістычны, а не Бог рамантычны.

**693**
Свабоду можна заваяваць, дабрабыт — толькі выпрацаваць.

694
Бог — гэта свабода.

695
Здаецца мне, што ў чалавечай мове найбольшымі стуканцамі з'яўляюцца словы „ніколі" і „заўсёды".

696
Сталінская куля ў сэрцы беларуса не была саладзейшай ад кулі гітлераўскай.

697
Палітыка, які давёў да таго, што людзі, яго пабачыўшы, устаюць, пара саджаць.

698
Маладыя мелі стацца магільшчыкамі беларускасці, а сталіся яе ўваскрасіцелямі.

**Алесь Барскі**

## РАНІШНІЯ МУЧЭННІ

Да адкрыцця паўгадзіны...
Хоць бы было сёння піва!
Бабка пляцецца з карзінай —
Зноў прадаваць будзе слівы

Восень люстэркамі лужын
Шыбы піўной асляпляе...
Дзядзька высокі і дужы,
Злосна дыван выбівае.

Лупіць па ім так старанна,
Быццам бы жонку дубасіць.
Спаў бы — субота і ранак —
А ён жа энергію траціць.

Хоць бы зрабіў перапынак,
Тут і без гэтага дрэнна...
Да адкрыцця паўгадзіны...
Рэбры баляць і калена...

Слаба ўчарашняе помню...
Помню, чамусьці разуўся,
Потым, аблаяўшы поўню,
Поўзаў, як вуж той, на брусе.

Крочыць з прыпынку трамвая
Ў краму, напэўна суседка,
Зараз, відаць, запытае:
„Цёпла, сусед, без шкарпэтак?"

**Янусь Малец**

## Аб Ходжы Насрэддзіне

### ВЕЕР

Змайстраваў Ходжа з курыных пер'яў некалькі вееpaў і панёс іх на базар. Адзін з пакупнікоў хацеў пакарыстацца веерам, але той адразу рассыпаўся.

— І гэта мае быць тавар?! — закрычаў пакупнік.

— Э-э, — сказаў Ходжа, — веерам трэба ўмець карыстацца: раскрываеце... вось так... трымаеце каля твару — а самі галавой качаеце!

### СПЯВАК

Ходжа не мог сцярпець аднаго спевака. Калі той пачынаў спяваць, Ходжа ўцякаў з памяшкання. Аднойчы сустрэў ён спевака на вуліцы з нейкім хлопчыкам.

— Хто ён для вас гэты малыш? — спытаў Ходжа.

— Гэта — мой сын!...

— Госпадзі! — сказаў Ходжа. — Той цяпер і беднаму дзіцяці прыходзіцца цярпець...

### І САМ ВЕДАЮ

Ходжа стаяў пад размоклай ад дажджу сцяной і маліўся Аллаху, просячы даць яму хаця трохі грошай. У гэты момант са сцяны выпала цагліна і разбіла яму галаву.

— О, Алах, — закрычаў ён, выціраючы кроў рукавом жупана, — я ж прасіў грошы! А як разбіць галаву, то я і сам ведаю...

### ДЗІРАВАЯ МАНЕТА

На галаве ў Ходжы была лысіна. Аднойчы ён пастрыгся ў цырульніка і даў яму дзіравую манету.

— Э, не, эфендзі, — сказаў цырульнік, — такая не пойдзе, давайце цэлую!

— Цэлую! А галаву ты мне цэлую стрыг? Калі зарасце мая лысіна, тады і буду плаціць цэлай!

ZOO
DIRECTION

# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі").

„Niwa"

ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty na 1990 r.:

I. Prenumerata pocztowa.

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać można: mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.

2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.

3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.

4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1990 r. upływa 20 sierpnia 1990 r. włącznie.

5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 3.250 zł za doręczanie.

6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.
Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

— Cena prenumeraty miesięcznej:
— sierpień — 5.200 zł.
— wrzesień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

Zam. 1006/90